№ 15 (852) 16 красавіка 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# Пятая калона ў Беларусі

**Хто рыхтуецца да сустрэчы «зялёных чалавечкаў» у Беларусі? Масква пераарыентавалася на падтрымку экстрэмісцкіх і нават крымінальных структур.**

**Старонкі 6—7.**

Сепаратысты носяць георгіеўскія стужкі. За гэта ўкраінцы празвалі іх «каларадасамі».

## Аўто

### Расія ваюе — Беларусь нясе страты

Па айчынны «Джылі» выгадней ехаць у Маскву. **Старонка 4.**



## Крымінал

### Спыніўся дапамагчы — атрымаў кулю ў галаву

Клопат пра блізкага скончыўся стрэлам. **Старонка 5.**



## Гутарка

### Час не для расчаравання, а для мабілізацыі

Гутарка з пісьменнікам Сяргеем Жаданам. **Старонка 9.**



## Літаратура

### Надзея, вера і любоў

Мужыкі майго роду паміраюць у трыццаць. Апавяданне Мікіты Волкава. **Старонка 13.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у чацвер. А падпісчыкі атрымліваюць газету ў сераду — глядзі **старонку 2.**

# Расія выбрала «тактыку салямі»

Адкраіла ад Украіны Крым, цяпер узялася за Данбас. Туды з Крыма перамясціліся «зялёныя чалавечкі» і іх група падтрымкі.

«Зялёнымі чалавечкамі» ўкраінцы празвалі экіпіраваных да зубоў камандас без апазнавальных знакаў. У Крыме, як пазней выявілася, дзейнічаў спецназ ГРУ Расіі. Імаверна, ён задзейнічаны і ў Данбасе. Яго дзеянні скаардынаваныя з мясцовай «пятай калонай».

Сепаратысты захапілі некалькі адміністратыўных будынкаў, узялі закладнікаў. Асаблівы ўдар яны скіравалі на горад Славянск, размешчаны на стратэгіных дарогах, што вядуць з цэнтра краіны ў Данецк. Міліцыю і СБУ там захапілі, украінскіх спецназаўцаў расстралялі. Што і казаць, калі на ўзбраенні нападнікаў ёсць нават найноўшыя рэактыўныя гранатамёты РПГ-30.

Мэр Славянска Нэля Штэпа была вымушаная падтрымаць дзеянні захопнікаў, каб супрацоўнікаў адміністрацыі адпусцілі. На наступны дзень ёй удалося выехаць з горада, і на абласной нарадзе яна расказала, што пайшла на такую хітрасць спецыяльна.

Данбас стаў другім пасля Крыма невыпадкова. Паводле перапіса 2001 года, у Данецкай вобласці этнічных рускіх 38%, а ў Луганскай — 39. Дый гаворыць Данбас па-руску. Людзі туды з'язджаліся стракатыя, працаваць на шахтах. Украіна многім з іх не родны дом. На гэтым і спрабуюць сыграць.

Падпарадкаваныя Кіеву сілавыя структуры бяздзейнічаюць. Данецкая міліцыя была цесна звязаная з кланам Віктара Януковіча, абараняць новую ўладу не хочуць. Баяцца, што ў новай Украіне ім не будзе работы. У самім Данецку «пятая калона» заняла будынак абласнога ўпраўлення міліцыі. Яе падтрымліваюць байцы раней расфармаванага «Беркута», якія пачапілі георгіеўскія стужачкі.



**Мэр Славянска Нэля Штэпа пайшла на хітрасць, каб вызваліць закладнікаў.**

«Георгіеўскую стужачку» ўсе мінулыя гады раскручвала расійская прапаганда, і цяпер стала зразумела чаму. Чырвоны сцяг адышоў у мінулае, звязаны з камуністамі. Расійскі трыкалор іншым народам чужы. Заваяванне Украіны вядуць пад георгіеўскімі стужкамі.

Якая сацыяльная база сепаратыстаў Данбаса? Іх падтрымлівае частка насельніцтва, частка крымінальных структур. І прадстаўнікі «старога рэжыму». Прайшла інфармацыя, што выступы фінансуе сын Януковіча Аляксандр.

Сам Віктар Янукович і ягоныя блізкія міністры, генпракурор сядзяць у расійскім Растове-на-Доне. Вярнуцца ў Кіеў яны не спадзяюцца, але хоць у родны Данецк. Гэта ж там, у Янакіеве, Янукович адседзеў у савецкі час сваю першую «ходку» за тое, што краў, зрываў у жанчын норкавыя шапкі з галавы.

Эскалацыя падзей у Данбасе адбываецца на фоне глыбокага эканамічнага крызісу ва Украіне. Урад былога прэзідэнта Віктара Януковіча растраціў усе валютныя рэзервы краіны. Не засталося ў сховішчах і патрэбных запасаў газу. Грыўня ўпала з 8 да 13 адносна даляра за апошнія два месяцы.

Расія з 1 красавіка ўстанавіла занябесную цану на газ — амаль 500 даляраў (Беларусь атрымлівае яго за 170). З дапамогай паліва яна спадзяецца трымаць суседнюю краіну за горла. Намер ясны: узяць Данбас і азалаціць яго танным газам і вялікімі грашыма. Пасля на гэта спакусіцца Харкаў, Адэса... І так па рэзнічку расчляніць Украіну.

Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка чарговы раз катэгарычна асудзіў заклікі да федэралізацыі Украіны. На яго думку, такі сцэнар нясе страшную небяспеку для ўсяго рэгіёна, у тым ліку і Беларусі.

А прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск мяркуе, што ўлады Украіны маюць поўнае права ўжыць сілу для абароны тэрытарыяльнай цэласнасці. Пуцін дойдзе датуль, дакуль украінцы яго пусцяць, кажуць заходнія палітыкі. Пры гэтым і ЗША, і Еўропа катэгарычна сказалі: ваеннай дапамогі Украіна не атрымае.

Увечары аўторка Кіеў зрабіў першы за паўтара месяца рашучы крок. Украінскія спецназаўцы адбілі заняты сепаратыстамі аэрадром у Краматорску і вывелі калоны бронетэхнікі на подступы да Славянска.

**Сяргей Гезгала**

Больш пра падзеі ва Усходняй Украіне чытайце на старонках 3 і 9.

## Сцісла

### Арыштаваны праваабаронца Андрэй Бандарэнка

Дырэктару «Платформы», які займаўся абаронай правоў чалавека ў месцах пазбаўлення волі, выстаўленыя абвінавачванні ў хуліганстве па трох эпізодах. Бандарэнку пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі. У справе не бачна палітычнага складніку, аднак сябры праваабаронцы звяртаюць увагу на правакацыі ў дачыненні да яго, якія здараліся ў апошні час.

### Слава Украіне? На трое сутак

Мінскаму фанату далі трое сутак за пераклічку «Слава Украіне!» падчас матча «Дынама» (Мінск) — «Шахцёр». Пачуўшы скандаванне, амапаўцы ачапілі сектар. Яны затрымалі таго, хто пачаў пераклічку, і ягоных паплечнікаў, якія ўступіліся за яго. Удзельнікам інцыдэнту пагражаюць штрафы.

### Таварыства пры Саюзе

Пры Саюзе беларускіх пісьменьнікаў стварылі Таварыства ўкраінскай літаратуры, якое будзе займацца гуртаваннем украінамоўных беларускіх аўтараў і папулярызацыяй украінскай літаратуры. Кіраўніцай абраная Наталка Бабіна.

### Затрыманыя кіраўнікі Слуцкага мясакамбіната

Гендырэктару прадпрыемства і яго намесніку інкрымінуецца перавышэнне службовых паўнамоцтваў, халатнасць і злоўжыванне ўладай. Справа заведзеная на патрабаванне Аляксандра Лукашэнкі. За 2013 год і два месяцы гэтага года чыстыя страты камбіната склалі $16 мільёнаў.

**ЯМ**

# Карлюкевіч і Бадак атрымалі ад Расіі па $28 тысяч

Вялікая прэмія за **сумнеўны праект**.

Алесь Карлюкевіч — дырэктар выдавецкага дома «Звязда» і галоўны рэдактар аднайменнай газеты, Алесь Бадак — намеснік дырэктара, галоўрэд часопіса «Нёман». Яны сталі лаўрэатамі міждзяржаўнай прэміі «Зоркі Садружнасці» за 2013.

Прэмія ўручаецца штогод за буйны ўнёсак і дасягненні ў галіне навукі і адукацыі, гуманітарнай дзейнасці і супрацоўніцтве краін СНД. Адпаведна, тры намінацыі: навука і адукацыя, культура і мастацтва, гуманітарная дзейнасць. У кожнай намінацыі прысуджаюцца тры прэміі па 2 мільёны расійскіх рублёў (56 тысяч даляраў). Прэмію беларусы падзеляць між сабой, то бок кожны атрымае па 28 тысяч даляраў.

За што ўручаюць такія сумы?

Бадака і Карлюкевіча адзначылі за рэалізацыю праекта па выданні кніжнай серыі на расійскай мове «Сугучча сэрцаў». У кожным томе з серыі (усяго 11 кніг) прадстаўлены мастацкія творы адной замежнай краіны (Малдова, Таджыкістан, Расія, Узбекістан...) і беларускіх аўтараў: усе пераклады, зразумела, па-расійску. Вартасць такіх кніжак сумнеўная. Можна зразумець, калі б яны рабіліся на нацыянальных мовах кожнай краіны. А так выданні скіраваны толькі на русіфікацыю.

Праект фінансаваўся Міністэрствам інфармацыі Беларусі. Між іншым, аўтарам ідэі і каардынатарам серыі з'яўляецца Лілія Ананіч, першая намесніца міністра інфармацыі, Карлюкевіч — старшыня рэдакцыйнай рады серыі, Бадак — укладальнік серыі.

Адметна, што летась гэтую ж прэмію атрымаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Яго адзначылі ў намінацыі літаратура і мастацтва. А Карлюкевіча многія называюць патэнцыйным наступнікам Чаргінца на пасадзе старшыні афіцыйнага Саюза пісьменнікаў.

Карлюкевіч — адстаўны вайсковец. Ён займаецца краязнаўствам і піша дзіцячыя кніжкі. Да прыходу ў «Звязду» ён узначальваў холдынг «Літаратура і мастацтва», яшчэ раней — быў карэспандэнтам «Советской Белоруссіі», «Во славу Родіны», рэдактарам «Чырвонай змены» (пры ім яна шчасліва спыніла выхад).

Бадак — паэт, аўтар шэрагу кніжак для дзяцей і падлеткаў. У 1990-х на яго словы выконвалі песні Аляксандр Саладуха, Анатоль Ярмоленка, Алеся. Пасля аб'яднання літаратурна-мастацкіх часопісаў і тыднёвіка ў холдынг, працаваў у яго структуры, а затым стаў намеснікам Карлюкевіча.

Прэмія «Зоркі Садружнасці» зацверджана ў 2009 РГС і МФГС. Раней лаўрэатамі з Беларусі станавіліся спявак Анатоль Ярмоленка, кампазітар Ігар Лучанок, калектыў навуковых супрацоўнікаў Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі Акадэміі навук, калектыў дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра «Зубраня».

Між іншым, у галіне гуманітарнай дзейнасці лаўрэатамі былі жонка прэзідэнта Азербайджана Мехрыбан Аліева і жонка казахстанскага кіраўніка Сара Назарбаева.

**Дзмітрый Паўловіч**

## Апытанні на nn.by

### Чым скончацца падзеі ва Украіне?

| | | |
|---|---|---|
| Расія расколе краіну на дзве: незалежную поўнач і падкантрольны Расіі поўдзень | 817 | 33% |
| Украіна верне Крым | 795 | 32% |
| Украіна ператворыцца ў новую Югаславію | 460 | 19% |
| Расія зойме і Данбас, і Харкаў, і Адэсу | 194 | 8% |
| Расія зойме Данбас | 103 | 4% |
| Расія зойме ўсю Украіну | 90 | 4% |

Прагаласавала 2459 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 9—15 красавіка

1. Украінскі спецназ увайшоў у захопленыя расійскімі камандас Славянск
2. Расійскія камандас занялі некалькі гарадоў Данецкай вобласці, перарэзалі стратэгічныя дарогі
3. Як Расія рыхтуе кадры для падрыву постсавецкіх дзяржаў
4. Лукашэнка: Імем рэвалюцыі навядзіце парадак! У нас пасля вайны такога не было! Поўны бардак
5. Расія плануе на 9 Мая сепаратысцкі шабаш
6. Вясёлыя карцінкі. Welcome to Belarus
7. Акцёр Аляксей Панін спрабаваў забіць сябе
8. У Віцебску раздаюць расійскія сцяжкі ФОТЫ
9. Лукашэнка: Вы што, імпартнае піва лічыце лепшым за нашае і думаеце далей труціць беларускі народ?
10. The Telegraph: Ізаляцыя Пуціна фатальная, Расіі нядоўга засталося


**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 24000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 8 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 356-98-29, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 35800 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 42979 руб./месяц.

Пры аплаце ў банку ці на пошце, бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату». Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар ствараецца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# Сяргей Высоцкі: Ва Усходняй Украіне дзейнічае расійская агентура



Калумніст, журналіст сайта Liga.net, які падрабязна асвятляе падзеі ў Данецку і Харкаве, расказаў пра настрої і спецыфіку рэгіёна.



Зялёныя чалавечкі з георгіеўскімі стужкамі на Усходзе Украіны.

REUTERS

**«Наша Ніва»: Як называць тое, што сёння адбываецца ва Усходняй Украіне?**

**Сяргей Высоцкі:** Ёсць два варыянты. Адны называюць гэта вайной. Іншыя, у тым ліку і я, — дыверсіяй (агрэсіяй), у якой выкарыстоўваюцца войскі Расійскай Федэрацыі. Тут хацелі правярнуць той самы варыянт, што ў Крыме. Калі расійскія вайскоўцы дзейнічалі пад выглядам мясцовай самаабароны. Але ў гэтых людзей нават мова без украінскага акцэнту. Ёсць відэа з Краматорска, дзе такі «баец самаабароны» ўжывае замест «бардзюра» слова «поребрік», якое ўжываецца толькі ў Санкт-Пецярбургу. Мы маем справу з падрыхтаванай дыверсіяй.

**«НН»: А ў чым адрозненні ад Крыма?**

**СВ:** У Крыме быў Чарнаморскі флот, там ад пачатку было больш расійскіх вайскоўцаў. Крым, у прынцыпе, вельмі проста адрэзаць ад мацерыка — ёсць толькі два перашыйкі. У Данецку ж ёсць мяжа з Расіяй, хай кепска абараняецца, але яна ёсць. На сённяшні дзень, па нашых ацэнках, ва Усходняй Украіне дзейнічае каля 200 расійскіх дыверсантаў. Па выніках апошніх сацапытанняў, толькі каля 18% жыхароў Данецкай вобласці хочуць увайсці ў склад Расіі [па перапісе 2001 года доля этнічных рускіх складала 39% у Луганскай і 38% у Данецкай абласцях — НН]. Гэта меншасць, але вельмі актыўная меншасць, яны вераць у Пуціна і хочуць жыць у Расіі. Яшчэ ёсць мясцовая агентура, якую шмат гадоў песціла Расія.

**«НН»: Гэта хто?**

**СВ:** Вось прыклад з Харкава, дзе мітынгі за федэралізацыю Украіны праводзіў так званы палітолаг Канстанцін Далгоў, які працаваў на кума Пуціна Віктара Медведчука. Дарэчы, забыўся сказаць пра яшчэ адну праслойку, што выступаюць за Расію, — гэта мясцовыя бандыцкія сеткі. Тыя самыя, якія каардынаваў сын Януковіча Аляксандр. Сёння ён робіць тое самае. Тыя, што стаяць у ачапленні адміністрацыйных будынкаў, маюць стандартную таксу — 500 грыўняў (каля 400 тысяч рублёў) за дзень.

**«НН»: Калі за Расію меншасць, дык большасць маўчыць? Баяцца?**

**СВ:** Яны пасіўныя. Данбас — гэта вельмі дэпрэсіўны рэгіён. У савецкі час туды перасяляліся людзі з розных рэгіёнаў СССР. Гэта найбольш крымінальны, урбанізаваны рэгіён Украіны. У 90-я гады рэй там вялі бандыты. Уся прыватная ініцыятыва была задушаная. Актыўных бізнэсменаў, што не хацелі жыць па бандыцкіх правілах, проста забівалі. Журналістаў — таксама. Атрымліваецца такая «выпаленая зямля». У Данбасе няма сярэдняга класа, таго, што быў рухальнай сілай кіеўскага Майдану, няма базы для пратэстаў.

У мяне там жывуць сваякі. Яны абыякавыя да лёсу рэгіёна. Прыйдзе Пуцін — ну і ладна. Застанецца Украіна — хай будзе так. Ды і баяцца таксама.

Прайшоў мітынг супраць федэралізацыі ў Марыупалі. Удзельнікаў моцна пабілі. Шасцёра чалавек трапілі ў рэанімацыю. Гэтаксама жорстка будуць абыходзіцца з іншымі акцыямі.

**«НН»: Роля Януковіча ў падзеях на ўсходзе вялікая?**

**СВ:** Вялікая. З яго дапамогай Расія спадзяецца неяк легітымізаваць гэтыя падзеі. Ёсць спадзяванні прывезці яго на ўсход і зрабіць кіраўніком «дзяржавы» кшталту Прыднястроўя. Януковіч і ягоны сын фінансуюць частку выступаў.

**«НН»: Дарэчы, а чаму, на Ваш погляд, ідзе адмаўленне ад ідэі далучэння Данецка і астатняга ўсходу да Расіі?**

**СВ:** Расія ў Крыме сутыкнулася з мноствам праблемаў, якіх не чакала. Яна атрымала датацыйны рэгіён з не зусім лаяльным насельніцтвам. Ім трэба праспрабаваць спачатку пераварыць Крым, а разам з Данбасам ёсць імавернасць, што можна і падавіцца.

**«НН»: Які Ваш прагноз? Дзе спыніцца Расія?**

**СВ:** Не ведаю. Як украінец, я веру, што мая краіна застанецца цэласнай і сабornай. Што разам з міжнароднай супольнасцю нам удасца абараніць яе ад агрэсара. Але цяперашнія падзеі цалкам выйшлі з рацыянальнага поля. І на каго наступнага накінецца вар'ят з сякерай, ніхто не ведае. Я не падзяляю думку, што Данбас ужо страчаны — гэта вялізны рэгіён з 9-мільённым насельніцтвам, а захоплена ўсяго некалькі адміністрацыйных будынкаў. Яшчэ ўсё магчыма.

Гутарыў Зміцер Панкавец

Выканаўца абавязкаў прэзідэнта Украіны — **неапратэстант**.

# Лукашэнка пра Турчынава: Ён баптыст. Пасля сустрэчы я запаважаў яго яшчэ больш

У інтэрв'ю тэлеканалу НТВ кіраўнік Беларусі зрабіў некалькі кампліментаў часоваму лідару Украіны Аляксандру Турчынаву, з якім перад гэтым сустракаўся ў жыткавіцкай рэзідэнцыі «Ляскавічы»: «Мы можам не пагаджацца з ім у плане яго рэлігійнасці (ён баптыст) і гэтак далей, але ён вельмі верыць у тое, што робіць. І ён не хлусіць. Калі ён кажа, значыць, кажа толькі праўду. Ён, можа быць, не мае рацыі, але ён так лічыць. І вы ведаеце, я яго пасля гэтага запаважаў яшчэ больш, бо я бачу, што ён адзін да аднаго робіць тое, што ён мне сказаў».

Прыналежнасць да царквы наўрад ці ўплывае на палітычныя погляды Турчынава, мяркуе Анатоль Марціноўскі, аглядальнік Gazeta.ua. Хутчэй, наадварот — у крытычных выказваннях слова «пастар» часта сустракаецца з негатыўным адценнем.

У канцы лютага Майдан абсвістаў новаспечанага в.а. прэзідэнта, калі там прадстаўлялі новы ўрад. Па выніках апошніх сацапытанняў, рэйтынг Турчынава адзін з самых нізкіх.

Зрэшты, пры існай палітычнай сістэме рэлігійная прыналежнасць яму ў любым выпадку не перашкаджае. У парламент ён выбіраецца па партыйных спісах, а яны пакуль што закрытыя.

Цікава, што ў 2006 Турчынаў прайграў на выбарах мэра Кіева іншаму пратэстанту — Леаніду Чарнавецкаму.

**Аляксандр Турчынаў**

украінскі палітык, дэпутат парламента (Рады). Пасля перамогі Еўрамайдану яго палітычная кар'ера пайшла на ўзлёт. Вярхоўная Рада Украіны прызначыла яго спачатку старшынёй, затым — выканаўцам абавязкаў прэзідэнта і вярхоўным галоўнакамандуючым.

Нядаўна Турчынаву споўнілася 50 гадоў. Ён родам з Днепрапятроўска, інжынер па адукацыі. У канцы 80-х быў загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды абкама камсамола, затым — галоўным рэдактарам украінскага інфармагенцтва. Абараніў доктарскую дысертацыю на тэму ценявой эканомікі.

У 2007 Турчынаў задэклараваў каля 150 тысяч даляраў прыбытку. Значную частку грошай прынеслі ганарары ад навуковых прац.

Аўтар больш чым 100 навуковых прац пра карупцыю, ценявую эканоміку, таталітарызм. Напісаў некалькі кніг, па матывах адной з іх («Ілюзія страху», 2004 год) быў зняты трылер.

Жанаты, жонка — загадчыца кафедры замежных моваў у Кіеўскім педагагічным універсітэце. Сын — студэнт эканамічнай ВНУ ў Кіеве.

Вядома, што Турчынаў — практыкуючы хрысціянін, рэгулярна наведвае баптысцкую царкву, чытае там казані.



Па словах Яраслава Лукасіка, пастара мінскай царквы хрысціянаў веры евангельскай «Ян Прадвеснік», многія ўкраінцы палічылі добрым знакам тое, што ў пераломны для краіны час найбольш адказную пасаду заняў вернік.

Турчынаў належыць да «старой гвардыі» ў партыі Юліі Цімашэнкі «Бацькаўшчына». «Ён не ўспрымаецца як самастойны палітык, хутчэй «правая рука Цімашэнкі», — кажа Васіль Бабіч, украінскі блогер.

На днях новае кіраўніцтва Украіны на чале з Турчынавым абвясціла пра пачатак антытэрарыстычнай аперацыі на ўсходзе краіны.

Ці не супярэчыць ужыванне гвалту хрысціянскім прынцыпам?

«Усякая ўлада ад Бога, напісана ў Пасланні да рымлянаў. Меч — гэта абавязкова частка свецкай дзяржаўнай улады. Калі нехта займаецца сепаратызмам, разбурае тваю дзяржаву, чужыя армія прыходзіць, няўжо ты будзеш маўчаць?» — мяркуе пастар Лукасік.

Аксана Рудовіч

**Баптысты**

Баптызм (ад гр. «баптыза» — «хрышчэнне») — адзін з накірункаў пратэстантызму Узнік у XVII ст. З'явіўся на тэрыторыі былой Расійская Імперыі у другой палове XIX ст. За свае погляды баптысты цярпелі перслед і ў царскай Расіі, і ў савецкі час.

Выступаюць за самастойнасць кожнай царкоўнай суполкі, пастарам можа быць практычна любы прыхаджанін. Служэнне складаецца з казані, спеваў пад гітару ці піяніна, чытання духоўных вершаў.

Не ўжываюць алкаголь, цыгарэты, выступаюць супраць дашлюбных адносін.

На тэрыторыю Беларусі баптысты трапілі ў сярэдзіне XIX стагоддзя з Валыні. У 1923 у Берасці адбываўся першы з'езд беларускіх баптыстаў. У 1937-м на тэрыторыі Берасцейшчыны налічвалася больш за 13 тысяч баптыстаў. На сёння ў Беларусі дзейнічае 286 баптысцкіх прыходаў, якія наведваюць 14 тысяч прыхаджан.

Сярод вядомых баптыстаў: прэзідэнты ЗША Гары Трумэн, Джымі Картэр, Біл Клінтан, пастар Марцін Лютар Кінг, акцёр Чак Норыс, прадпрымальнік Джон Ракфелер.

# Расія ваюе, Беларусь нясе страты

По айчынны «Джылі» **выгадней ехаць у Маскву.**

Беларуска-кітайскае прадпрыемства «Белджы» працягвае выпуск новых мадэляў легкавікоў «Джылі». Гэтыя машыны разглядаюцца ў якасці альтэрнатывы вырабам расійскага аўтапрама. Аднак сёння на рынку склалася дзіўная сітуацыя: новы «Джылі» беларускай зборкі танней набыць у Расіі, чым у Беларусі.



### Значная розніца

Цэны на новыя легкавікі з Барысава ў Мінску істотна адрозніваюцца ад цэн у Маскве ці Пецярбургу. Параўнанне можна правесці на прыкладзе Geely EX7 — гэтую мадэль прадаюць амаль усе аўтадылеры.

У Беларусі EX7 у камплектацыі «люкс» каштуе $20,5 тысячы. Расійскія дылеры прапануюць гэтую ж мадэль за $19 300. А машыну леташняй вытворчасці можна ўвогуле набыць за $18 тысяч. Прывабная прапанова, асабліва ўлічваючы, што новае аўто з Расіі не трэба размытняць, давядзецца сплаціць толькі ўтылізацыйны збор (каля $55 пры ўвозе фізічнай асобай для ўласнага карыстання).

У аддзеле продажаў і сэрвісу «Белджы» тлумачаць прычыну несупадзення цэнаў проста: «Расія ваюе — іх рубель таннее. Калі ў нас цэны прывязаныя да даляра, дык у Расіі ўсе цэны ў рублях».

**У 2013 годзе беларусы набылі 431 «Джылі».**

| | У Беларусі | У Расіі |
|---|---|---|
| Polo Trendline 1.4 | $17 154 | $15 700 |
| Renault Sandero Stepway 1.6 | $16 600 | $15 900 |
| Renault Duster Privilege 1.6 | $18 900 | $18 750 |
| Kia Rio Comfort 1.4 | $15 300 | $14 500 |

### Расія перахоплівае купцоў

Сапраўды, цягам некалькіх апошніх месяцаў расійскі рубель значна абясцэніўся. Калі б курс расійскай валюты захаваўся на ўзроўні пачатку года, Geely EX7 у Расіі каштаваў бы каля $21,1 тысячы — даражэй, чым у нас.

Падзенне рубля зрабіла прывабнай пакупку ў Расіі не толькі Geely, але і амаль любога іншага новага аўтамабіля. Часам розніца невялікая, аднак нават яна можа стаць падставай праехаць некалькі соцень кіламетраў, каб набыць аўтамабіль у расійскага дылера.

«Наша Ніва» параўнала беларускія і расійскія цэны на некалькі мадэляў новых аўто, якія летась былі самымі прадаванымі машынамі ў Беларусі (**табліца злева**).

Старшыня Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі Сяргей Міхневіч пацвярджае, што беларусы масава пачалі ездзіць па новыя аўтамабілі ў Расію. Паводле эксперта, у сакавіку гэта прывяло да падзення продажаў у беларускіх аўтасалонах на 10—30%: «Такое становішча на рынку новых аўтамабіляў стварылася ў студзені-лютым, калі расійскі рубель перажыў рэзкі абвал. Аднак нельга казаць, што дэвальвацыя расійскага рубля стала адзіным фактарам танных аўтамабіляў у Расіі. Істотна, што больш за палову прадаваных у Беларусі новых аўтамабіляў збіраюцца ў Расіі. Увядзенне ўтылізацыйнага збору, які сплачваецца двойчы — і расейцамі, і беларускім дылерам, — значна падняло цану на аўтамабілі. Нельга забываць і пра падатак на дададную вартасць, які ў Расіі ніжэйшы за беларускі на 2%».

### Усё вернецца на месцы

Аднак Міхневіч упэўнены, што, нягледзячы на існуючае становішча, сітуацыя з цэнамі на новыя машыны ў Беларусі і Расіі неўзабаве мусіць стабілізавацца.

Расійскія аўтадылеры ў сакавіку ўжо паднялі цэны на 3-5%, і не выключана, што неўзабаве яны правядуць яшчэ адно павышэнне цэнаў на 5-10%.

«Але нельга казаць, што сітуацыя на беларускім рынку новых аўтамабіляў цяжкая. У параўнанні з першым кварталам 2013 года за аналагічны перыяд 2014 года было прададзена на 50% больш новых аўтамабіляў», — падсумоўвае эксперт.

**Кірыла Хілько, фота аўтара**

## Пасля накладання санкцый Еўрасаюза выручка кампаніі Анатоля Тарнаўскага зменшылася ў 8 разоў

«Юнівест-М» прыносіць чыстага прыбытку па **$5-6 мільёнаў за год.**

Група кампаній «Юнівест-М» — бізнэс беларуска-расійскага мільянера Анатоля Тарнаўскага, які ў 2012 годзе пацярпеў ад санкцый Еўрасаюза. У чорны спіс трапілі «Юнівест-М», «Юніс Ойл» і «Юнівест БудІнвест».

Тарнаўскі быў адным з найбуйнейшых нафтатрэйдараў, але апошнім часам сканцэнтраваўся на будаўніцтве. Яго бізнэс квітнее пры шчыльным супрацоўніцтве з Прэзідэнцкім спартыўным клубам, які ўзначальвае Дзмітрый Лукашэнка. А намеснікам па маркетынгу генеральнага дырэктара «Юнівест-М» працавала жонка Дзмітрыя, Ганна Лукашэнка.

«Юнівест-М» — таварыства з абмежаванай адказнасцю, таму штоквартальная фінансавая справаздача кампаніі не публікуецца. Затое даступныя гадавыя балансы, якія дазваляюць адсачыць, як пасля імклівага росту развіццё кампаніі стала замаруджвацца.

Паводле бухгалтарскага баланса кампаніі, выручка «Юнівест-М» за 2012 год складала $226 мільёнаў, а ў 2013 годзе яна зменшылася да $27 мільёнаў. Сукупны чысты прыбытак таксама паменшыўся, хоць і не так моцна — з $5,9 мільёна да $5 мільёнаў.

**Ягор Марціновіч**

## Даляр дайшоў да 10 000 рублёў

Афіцыйны курс даляра няўхільна набліжаецца да псіхалагічнай мяжы ў 10 тысяч рублёў. Нягледзячы на тое, што Нацбанк дэкларуе свабоднае курсаўтварэнне, даляр ні разу не патаннеў за апошнія 150 дзён! Альбо стаіць на месцы, альбо павялічваецца на 10 рублёў.

У выніку даляр дарос да 9940 рублёў, але курс продажу амерыканскай валюты ў абменніках яшчэ вышэйшы. Упершыню ў гісторыі ён дасягнуў- такі 10 тысяч рублёў. Такія курсы выставілі «БПС-Сбербанк» і «Прыёрбанк». Аднак і астатнія банкі недалёка. Напрыклад, у большасці рэгіянальных аддзяленняў дзяржаўнага «Беларусбанка» даляр прадаюць за 9990 ці нават 9995 рублёў.

А вось у большасці інтэрнэт-крамаў курс ужо зафіксаваўся на ўзроўні 10 тысяч рублёў.

Ад пачатку года курс даляра вырас на 4,5%, курс еўра — на 5%. І толькі ў адносінах да расійскага рубля беларуская валюта ўзмацнілася больш чым на 5%.

**ЯМ**

Цяслярскія працы
Шафы-купэ, пярэдні пакой, кухня, гардэроб, ды інш.
Зборка корпуснай мэблі.
Беларускамоўным — зніжкі.
8044 4619020 (Velcom)
8029 5579006 (МТС)
ІП Дашкевіч Д.В., УНП 691599592

## Участак з замарожаным будаўніцтвам прадалі за $1,1 мільёна

А кватэра ў Гродне каштавала **$680 тысяч.**

У першым квартале 2014 года гучных купляў/продажаў жылой нерухомасці ў Беларусі не было. Паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, звышдарагія катэджы, за якія гаспадары імкнуцца атрымаць каля $2 мільёнаў, дагэтуль не карыстаюцца попытам.

Адным з рэкардсменаў у гэтай сітуацыі стаў участак з незавершаным будаўніцтвам у Бараўлянах (некалькі кіламетраў ад Мінска). Пакупніца, дырэктар адной з фармацэўтычных кампаній, выклала за яго больш за $1,1 мільёна. А яшчэ колькі давядзецца ўкласці ў завяршэнне будаўніцтва!



**Квадратны метр у гродзенскім доме каштаваў больш за $10 тысяч.**

У сегменце кватэр таксама адбылася неспадзяванка. Жыллё ў элітных сталічных дамах саступіла па цане трохпакаёўцы ў гістарычным цэнтры Гродна. Падарунак на Дзень Святога Валянціна — угода была афармленая 14 лютага — абышоўся пакупніку больш за $680 тысяч. Квадратны метр каштаваў $10 500, у 11 разоў даражэй, чым у сярэднім па горадзе.

**ЯМ**

# Аднатыпныя крымінальныя справы расследуюцца ў Вілейцы і Оршы

**Вінавацяць у карупцыі старшынь райвыканкамаў.**

### Дом, які будаваў мэр

«У райвыканкаме правялі ператрус з удзелам спецназу. Мэра выводзілі ў кайданках», — прыйшло паведамленне ад чытача з Вілейкі некалькі тыдняў таму. Акурат тады ў раён прызначылі новага кіраўніка — Віктара Ката. Але былы мэр Яўген Сініла неўзабаве з'явіўся на публіцы — здаровы і без кайданкоў.

Аказалася, арыштаваць не арыштавалі, а вось справу крымінальную завялі — за злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Па інфармацыі Следчага камітэта, будаваў сабе дом за кошт дзяржавы. Мясцовыя арганізацыі перавозілі матэрыялы па вусным загадзе, а будаўнікі ў працоўны час «шабашылі» на мэравай фазэндзе — без афармлення дамовы аб аплаце. Цяпер праводзіцца фінансава-эканамічная экспертыза, каб вызначыць суму шкоды.

Ужо вялося расследаванне, калі Яўген Сініла атрымаў ад кіраўніка Міншчыны Сямёна Шапіры грамату і грашовую прэмію. «Ён адзін са найстарэйшых работнікаў кіраўнічага корпуса, і сур'ёзных падстаў для таго, каб перапыніць з імі працоўную дзейнасць, не было», — заявіў Шапіра, назваўшы ініцыятарам сыходу з пасады самога Сінілу. Цяпер, у святле новых падзей, звальненне не здаецца выпадковым. Сініла, між іншым, узначальваў раён з чэрвеня 2001 года.



**Яўген Сініла атрымаў падзяку за працу, калі ўжо вялося расследаванне.**



**Павел Касяк — Чалавек Міншчыны—2010.**

А з 1 лютага на працы няма дырэктара вілейскага вопытнага лясгаса Паўла Касяка — арыштаваны. «Крымінальная справа расследуецца па фактах крадзяжу шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў буйным памеры. Накладзены арышт на маёмасць абвінавачванага. Прыменена мера стрымання — заключэнне пад варту», — пракаментавала прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова.

Што можа скрасці ляснік? Вядома ж, лес. Пра гэта гавораць і ў самой Вілейцы. Справа нібыта тычыцца дома ці некалькіх дамоў, якія будаваліся з мясцовага лесу. Павел Касяк — паважаны ў горадзе чалавек. Яго, дарэчы, назвалі «Чалавекам года Міншчыны — 2010». А цяпер можа адправіцца за краты ад 3 да 10 гадоў.

### Лабіраваў інтарэсы сына

У перавышэнні ўлады альбо службовых паўнамоцтваў і незаконным удзеле ў прадпрымальніцкай дзейнасці тым часам абвінавацілі намесніка кіраўніка Аршанскага райвыканкама Івана Хурбатава. Амаль тры гады ён, паводле следства «выбіваў» фіктыўныя замовы на будаўніцтва і сам прымаў удзел у кіраванні фінансава-гаспадарчай дзейнасцю сынавай фірмы «ТопЕўраБуд». Са жніўня 2010 па ліпень 2013 браў для сваіх мэтаў у дзяржаўных арганізацыях горада і раёна транспарт, спецтэхніку, абсталяванне і нават работнікаў.

«Як высветлілася, прадпрыемства «ТопЕўраБуд» выступала субпадрадчыкам па будаўніцтве шматлікіх аб'ектаў у Оршы і раёне. З ім заключаліся дамовы на выкананне розных будаўнічамантажных работ, нягледзячы на адсутнасць на балансе прадпрыемства спецтэхнікі, будаўнічага абсталявання, транспартных сродкаў і неабходнай рабочай сілы. На самой справе, працу па вусным загадзе чыноўніка выконвалі дзяржарганізацыі Оршы і Аршанскага раёна», — паведаміла старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах ГУБЭЗ МУС Веранiка Пасмецщева.

Чыноўніка спачатку арыштавалі, але цяпер адпусцілі, хоць расследаванне працягваецца. Яму пагражае да дзесяці гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

**Кастусь Матушыч**

### Вышук



**Нападаў у пад'ездах**

Чалавека на фота падазраюць у згвалтаванні жанчын у пад'ездах шматкватэрных дамоў у 2007—2008. На выгляд яму 35-40 гадоў, рост каля 190 см. Калі вы пацярпелі ад гэтага чалавека, звярнайцеся на (017) 327-21-24, (029) 861-70-10.



**Аматар «БМВ»**

Мінчук падазраецца ў крадзяжах з аўто. Улюбёнымі маркамі станавіліся «БМВ» і «Хонда», з якіх зніклі навігатары, рэгістратары, магнітолы. Калі вы пацярпелі ад чалавека на фота, звярнайцеся на (029) 359-69-52.

## Спыніўся дапамагчы — атрымаў кулю ў галаву

**Для вілейчука клопат пра бліжняга ледзь не скончыўся трагедыяй.**

На аўтавакзале ў Вілейцы сустрэліся прыяцелі-аднавяскоўцы з Людвінова. Чакаючы аўтобуса, сядзелі за півам. Але з аўтобусам нешта не заладзілася: ці то засядзеліся за выпіўкай і прапусцілі, ці то рэйс адмянілі. І пайшлі на дарогу ў бок вёскі — думалі спыніць якую спадарожную машыну. Праўда, далёка адысціся не паспелі: адзін з прыяцеляў парадкам перабраў і ўвесь час падаў. Сябруку даводзілася яго падымаць і цягнуць ледзь не на сабе. Калі хлопец зноў паваліўся, да яго падышоў спагадлівы 56-гадовы віляйчук. Прапанаваў патэлефанаваць у «хуткую дапамогу». Хлопец запярэчыў, але мужчына ўсё-ткі стаў з мабільніка выклікаць медыкаў. Тады цверазейшы з прыяцеляў дастаў пнеўматычны пісталет і двойчы стрэліў у незнаёмца. Адна куля трапіла таму ў падбароддзе, другая — у патыліцу. Давялося тэлефанаваць у міліцыю.



**Пнеўматычны пісталет візуальна цяжка адрозніць ад баявога.**

21-гадовага стралка затрымалі ў дварах, куды ён зацягнуў сябрука і стаіўся сам. Аказалася, ён працуе ў сацыяльнай службе, а пісталет набыў на рынку ў Ждановічах. Праз такі п'яны выбрык можа адправіцца за краты ад 3 да 10 гадоў.

**СМ**

### Сцісла

**20 гадоў за суседку**

На такі тэрмін за краты адправіўся забойца сябра ЦВК Святланы Хіневіч. Суседа-наркамана асудзілі за забойства з асаблівай жорсткасцю, небяспеку заражэння вірусам імунадэфіцыту і за набыццё псіхатропаў. Ён пройдзе прымусовае лячэнне ад наркаманіі. І павінен кампенсаваць 70 мільёнаў рублёў маральнай шкоды сям'і забітай.

**П'яны ўдым літовец прарываўся ў Беларусь**

Яго спынілі на КПП у Салечніках пад Вільняй і перадалі паліцыі: ён не арыентаваўся ў прасторы, але здолеў дайсці да праверкі дакументаў. Літовец ледзь стаяў на нагах — у крыві пасля выявілі 6,8 праміле алкаголю. Гэта смяротная доза, а яго ў іншую краіну панесла.

**Кантрабанда гашышу**

Жыхар Санкт-Пецярбурга спрабаваў правезці ў Беларусь 87 кг гашышу яшчэ ў снежні. Яго затрымалі на пункце пропуску «Варшаўскі мост». Цяпер крымінальная справа перададзена ў суд Брэсцкай вобласці. Расіяніну пагражае ад 8 да 13 гадоў беларускай калоніі.

**А грошы дольшчыкаў**

Следчы камітэт Беларусі выявіў факты крадзяжоў грошай удзельнікаў долевага будаўніцтва са спецыяльнага рахунку ЗАТ «Тэрабудінвест». Грошы, 500 мільёнаў рублёў, павінны былі пайсці на будаўніцтва дома на вуліцы Прытыцкага ў Мінску, а аселі, як мяркуецца, у кішэнях кіраўніцтва фірмы. Накладзены арышт на маёмасць падазраваных — больш як на 2 мільярды рублёў.

**Разбіліся маладыя байкеры**

Два матацыклы Yamaha ехалі па вуліцы Маякоўскага ў Мінску. Папярэдне, аднаго з іх не прапусціў кіроўца «БМВ», які разварочваўся. Хлопцы 1995 і 1997 гадоў нараджэння, загінулі на месцы. Яны ехалі на адным матацыкле. Следчы камітэт просіць відавочцаў аварыі звяртацца на (017) 222-25-10, (017) 239-48-67.

**Падчас абгону**

Аварыя адбылася ў Іўеўскім раёне, каля вёскі Расолішкі. Кіроўца «Опеля Зафіры», у якім ехала сям'я мінчукоў, падчас абгону зачапіў сустрэчны «Опель Амега». «Зафіра» перакулілася на ўзбочыну, з салона вылецелі чацвёра пасажыраў: маці кіроўцы сканала, яго гадавалы сын, шасцігадовая дачка і жонка знаходзяцца ў бальніцы. Кіроўцы абедзвюх машын не пацярпелі.

**КМ**

# Хто рыхтуецца да сустрэчы

Масква пераарыентавалася на падтрымку экстрэмісцкіх і нават крымінальных структур. **Піша Ігар Лялькоў.**

Аналіз таго, якім чынам Расея здзяйсняе захоп зямель на поўдні і ўсходзе Украіны, прымушае па-іншаму ставіцца да таго, што ў сучаснай палітыцы прынята называць «мяккай сілай».

Росквіт гэтага паняцця прыйшоўся на час «каляровых рэвалюцыяў» мінулага дзесяцігоддзя.

Унутры Расіі канструявалі «суверэнную дэмакратыю» аўтарства Уладзіслава Суркова — калі нібыта і выбары ёсць, а ўлада не мяняецца. Тую самую «мяккую сілу» Расія спрабуе распаўсюдзіць і на краіны Усходняй Еўропы. Архітэктарамі гэтай стратэгіі замежнай палітыкі былі «лібералы» Глеб Паўлоўскі і Сяргей Караганаў.

Цяпер часы іншыя, крутыя. Расійскія кіраўнікі закручваюць гайкі ўнутры краіны. Яны адмовіліся ад ранейшых маніпуляцыйных метадаў рэгулявання грамадскага жыцця. Ім на змену прыйшлі прамыя рэпрэсіі і лабавая прапаганда.

І ў сферы «мяккай сілы» змяніліся акцэнты. Звыклая для стратэгіі Паўлоўскага-Караганава падтрымка прарасійскіх структур, стварэнне аналітычных цэнтраў, што працуюць на расійскія грошы, прыхаваны подкуп палітычных элітаў (у тым ліку цэлых партыяў) хоць і не былі знятыя з узбраення, але відавочна перасталі быць прыярытэтам. Рэй цяпер вядуць асобы, што спавядаюць дактрыны «еўразійства» і «аднаўлення Імперыі».

Масква цяпер арыентуецца на падтрымку экстрэмісцкіх і маргінальных з пункту гледжання электаральнай палітыкі структураў, а часам нават чыста крымінальных груповак. Задачай стаў не столькі ўплыў на бягучае палітычнае жыццё, колькі стварэнне базы для дэстабілізацыі сітуацыі на тэрыторыі незалежных дзяржаваў у патрэбны момант.



Сябры арганізацыі Румол раздаюць на вуліцах Мінска георгіеўскія стужкі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сцяжкі раздаюць з прысоскамі. Разлік на тое, што яны будуць бачныя ў транспарце.

### Кіраваны хаос

Як мы бачым на прыкладзе Крыма, гэтая новая «мяккая сіла» Расіі ёсць не проста спробай уплыву на палітыку незалежных дзяржаваў. Гэта «пятая калона» ў прамым сэнсе гэтага слова, пакліканая ў выпадку канфлікту стаць апірышчам дыверсантаў, правакатарамі ці «жывым шчытом» для інтэрвентаў. Ці, па меншай меры, матэрыялам для прапагандысцкага забеспячэння спрыяльнай карцінкі.

Як адзначае рэдактар «Рускага журнала» Аляксандр Марозаў, рэалізоўваць свой новы геапалітычны праект пуцінская Расія будзе з выкарыстаннем тых сродкаў, якія ўжо былі прадэманстраваныя ва Украіне:

— ваенны ціск,

— купля мясцовага алігархата і вайсковага кіраўніцтва,

— стварэнне «кіраванага хаосу»,

— выкарыстанне прарасійскіх актывістаў унутры краіны,

— масіраванае фінансаванне прарасійскіх «грамадскіх арганізацый»,

— масіраваныя прапагандысцкія атакі з расійскіх тэлеканалаў, якія працуюць на ўсёй постсавецкай прасторы.

Інфраструктура «мяккай сілы» важная тут не сама па сабе, а ў комплексе з кампанентам «жорсткай сілы» — групіроўкай расійскіх войскаў, што навісае над суседняй краінай.

Вось такая «руская вясна» пагражае любому месцу, дзе ўдалося стварыць прарасійскую пятую калону на этнічным, моўным, крымінальным альбо іншым матэрыяле.

### Падмурак для «пятай калоны»

У аналітыкаў склалася агульным месцам сцвярджэнне, што ў Беларусі прарасійскія сілы адкрыта не могуць стаць важным актарам на палітычнай арэне. Маўляў, Аляксандр Лукашэнка дэманструе настолькі прарасейскі курс, што быць большым сябрам Масквы за дзейнага кіраўніка дзяржавы папросту немагчыма.

Пэўная рацыя ў такой ацэнцы ёсць. Аднак Масква хоча большага, чым мае цяпер. Масква хоча радыкальнага рашэння раз і назаўжды: каб дзяржаўнасць Беларусі была ліквідаваная, а беларусы перасталі ўспрымаць сябе асобным народам. Таму і Лукашэнку Масква будзе падтрымліваць толькі да той пары, пакуль не адчуе, што здольная дабіцца большага. Фраза Пуціна аб «уступленні ў Расію шасцю губернямі» не была выпадковай.

Прычына адсутнасці адкрыта прарасійскіх палітычных сілаў хутчэй у тым, што беларуская палітычная сістэма не з'яўляецца канкурэнтнай, таму і фінансаванне Масквою арганізацый, арыентаваных на электаральны ўдзел, не мае сэнсу. Таму наўрад ці варта разглядаць сур'ёзна спробу пабудовы прарасійскай партыі **Сяргеем Касцянам**. Славянскі камітэт Касцяна, верагодна, падтрымліваюць у Маскве, але не ў большай ступені, чым **Гайдукевічаў** альбо іншых ахвотных заняць нішу «прарасійскай апазіцыі». Масква гатовая трымаць нейкія структуры «на кармленні» па прынцыпе «каб было», але не на іх Масква робіць стаўку і не на іх ускладае найбольшыя спадзяванні.

Асяроддзе для развіцця праектаў русафільскага культу ў краіне застаецца ідэальным. Нельга пераацаніць ролю дамінавання рускай мовы ў грамадстве і асабліва ў дзяржаўным кіраванні і СМІ. Трывалым апірышчам для стварэння нібыта лаяльных дзейнаму рэжыму прарасійскіх арганізацый з'яўляецца наяўнасць у кіруючым істэблішмэнце «заходнярускай» плыні на чале з намеснікам Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта **Львом Крыштаповічам**, а таксама па-ранейшаму істотнай колькасці чыноўнікаў «савецкай загартоўкі», якія прызвычаіліся звяраць гадзіннік «па Маскве».

Сапраўдную каштоўнасць для Крамля маюць цалкам **прарасійскія сілавыя структуры** Беларусі, якія так і не зрабіліся нацыянальнымі і ідэалагічна (а часам і кадрава) застаюцца падпарадкаванымі Маскве.

Сёння беларускае войска і спецслужбы вонкава могуць выглядаць дэідэалагізаванымі тэхнакратамі, але насамрэч вярхоўка іх афіцэрскага складу прасякнута прарасійскімі настроямі. У выніку ўвесь механізм забеспячэння дзяржаўнай бяспекі застаецца безабаронным перад уплывам з Усходу. Нешта падобнае назіралася ў Крыме і Данбасе, дзе ўкраінскія сілавікоў было свет, а абараняць дзяржаву яны не хацелі.

«Народныя масы» для правіцеляў Масквы заўжды былі расходным матэрыялам. Іх ніколі не шкадавалі, клалі мільёнамі і ў Другую сусветную вайну, і пры Пятры І, і пры Сталіну. Для «народных масаў» Беларусі Масква мае свой інструмент уплыву — гэта праваслаўная **царква**, якая ў нас мае афіцыйную назву Беларуская праваслаўная царква ці Беларускі экзархат Маскоўскага патрыярхата. Але ў самім Маскоўскім патрыярхаце пра тое, што царква «беларуская», мала хто ўзгадвае — структура лічыцца простым падраздзяленнем Рускай праваслаўнай царквы. Не лішнім будзе адзначыць, што нават іншая кананічна залежная ад РПЦ царквы (тая ж Украінская праваслаўная царква МП) маюць больш высокі статус — самакіраванай альбо аўтаномнай царквы. Экзархат у РПЦ толькі адзін — Беларускі.

Апошнім часам стала відавочна, што такі стан рэчаў пачаў непакоіць і мінскія ўлады. Бо, з аднаго боку, ёсць вонкавая ўзаемная падтрымка, удзел кіраўніка дзяржавы ў набажэнствах і нібыта поўная «сімфонія» ўлады і царквы. Але, з другога боку, БПЦ кіруецца строга загадамі з кананічнага цэнтра. Нібыта і Лукашэнку БПЦ падтрымлівае ўсебакова, але ж кіраўнік БПЦ прызначаецца не ў Мінску. Чарговым кіраўніком БПЦ у Мінск прыслалі архіерэя з Разані з цёмным мінулым. Пасыл быў ясны: хто б ні ўладарыў цяпер на гэтай зямлі, але душы людзей на ёй — кананічная тэрыторыя Масквы.

### Няўрадавыя і антыдзяржаўныя

Але нават пры наяўнасці такой гатовай «пятай калоны», як прарасійскія спецслужбы і царква, сучасную інфраструктуру ідэалагічнага ўплыву нельга ўявіць сабе без арганізацый «трэцяга сектару». Аналітычныя цэнтры, спартклубы, культурніцкія і дабрачынныя таварыствы — гэта сапраўдныя мускулы «мяккай сілы».

У Беларусі колькасць прарасійскіх арганізацыяў не нашмат меншая за тую, што склалася базай калабарантаў на поўдні і ўсходзе Украіны. Хоць колькасна яны і не такія шматлікія. Пакуль.

**Прарасійскія грамадскія структуры ў Беларусі:**

- Беларускае грамадскае аб'яднанне «Русь»
- Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Рускае таварыства»
- Расійскі культурніцкі цэнтр «Русь»
- Моладзевае сацыяльна-культурнае грамадскае аб'яднанне «Русь маладая»
- Міжнародная асацыяцыя моладзевых арганізацыяў расійскіх суайчыннікаў у Беларусі
- Грамадскае аб'яднанне «Рускае культурна-асветніцкае таварыства»
- Магілёўскае абласное аб'яднанне «Рускі дом»
- Віцебскае грамадскае аб'яднанне «Рускі дом»
- Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Русь адзіная»
- Беларускі саюз грамадскіх аб'яднанняў расійскіх суайчыннікаў
- Міжнародны рух «Інтэрнацыянальная Расія»
- Інфармацыйна-аналітычны партал «Імперыя»
- Мінскае таварыства рускай культуры «Русь»
- Культурна-асветніцкі праект «Западная Русь»
- Рэспубліканская грамадская арганізацыя «Беларускае казацтва»
- Рэспубліканская грамадская арганізацыя «Усебеларускае аб'яднанае казацтва»
- Казачы конна-спартовы клуб «Ярмак»
- Ваенна-патрыятычны клуб «Казачы спас»
- Нацыянал-бальшавіцкая партыя Беларусі (незарэгістраваная)

Не ўсе з гэтых грамадскіх аб'яднанняў карыстаюцца вялікай увагай прэсы. Хіба што толькі спецыфічныя сайты «Імперыя» і «Рэгнум» перыядычна асвятляюць іх дзейнасць.

Канечне, часам навіны з гэтай супольнасці прыходзяць даволі скандальныя і наўрад ці звязаныя з канкрэтнымі загадамі Крамля (накшталт вывешвання беларускім аддзяленнем НБП абразлівых транспарантаў на адрас Пуціна ў часе ягонага візіту ў Мінск). Але сама логіка існавання гэтых структураў — гэта логіка «мяккай сілы». Казачы летнікі для моладзі, спартовыя турніры, культурніцкія



**Ігар Лялькоў**

нарадзіўся ў 1971 у Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ, Універсітэт Парыж 1 — Пантэон-Сарбона (Францыя) і магістратуру Цэнтра ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Варшаўскага ўніверсітэта (Польшча). Намеснік старшыні Партыі БНФ.

# «зялёных чалавечкаў» у Беларусі



Сяргей Лушч каардынуе раздачу на беларускіх вуліцах расійскай сімволікі.



Леў Крыштаповіч.



Віктар Малашэнка ўзначальвае офіс «Рассупрацоўніцтва» ў Мінску.

імпрэзы, навуковыя гістарычныя чытанні адпаведнага кшталту і святкаванні знакавых датаў расійскай гісторыі — гэта спосаб існавання інфраструктуры, кшталту планктону, якая ў пэўны момант, пад парасонам расійскага эканамічнага і ваеннага ціску, можа крышталізавацца ды адыграць ролю, згубную для нашай дзяржаўнасці.

Магчыма, беларускія спецслужбы гэтыя асяродкі збольшага кантралююць, у тым ліку праз агентаў ды інфарматараў.

Найбольш схільныя да гвалтоўных дзеянняў структуры могуць быць разбураныя рэпрэсіўнымі сродкамі, як гэта было з групоўкай гэтак званых **«Аўтаномных нацыянал-бальшавікоў»**, чый лідар **Алег Карповіч** у пазамінулым годзе быў асуджаны па артыкуле 193 КК за дзейнасць незарэгістраванай арганізацыі, што наносіць шкоду грамадзянам.

З часу знішчэння на пачатку 2000-х структураў **РНЕ** ў Беларусі сапраўдныя парамілітраныя фармаванні ў гэтых асяродках не паўстаюць. Забойствы тагачасных лідараў расейскіх нацыстаў у Беларусі **Глеба Самойлава** і **Максіма Брэйнара**, а таксама шэраг крымінальных справаў сталі яскравым сігналам: нягледзячы на ўсю рыторыку пра славянскую еднасць, полем для дзейнасці ваенізаваных нацысцкіх арганізацыяў Беларусь не будзе.

Прарасійскія нацысты ў Беларусі існуюць, але дзейнасць сваю не афішуюць і хаваюць у легальных зарэгістраваных арганізацыях спартовага ці культурніцкага накірунку (гл. спіс вышэй).

У той жа час не трэба перабольшваць уплыву КДБ на гэтыя асяродкі.

Па-першае, як адзначалася, значная частка спецслужбоўцаў адчуваюць ідэйную еднасць з русафільскімі групоўкамі і, верагодна, некаторыя часам спрыяюць іх дзейнасці.

Па-другое, самі русафілы ставяцца да кантролю з боку спецслужбаў досыць спакойна. Для іх гэта дадзенасць, ад якой не сысці, але пры дэманстрацыі лаяльнасці яны спрабуюць яе выкарыстаць на сваю карысць праз узаемавыгаднае супрацоўніцтва.

Асаблівай увагі сярод структураў расійскай «мяккай сілы» заслугоўваюць моладзевыя арганізацыі. Падзеі ва Украіне добра прадэманстравалі, што ва «ўмелых руках» менавіта «маладзёжкі» могуць з'яўляцца лакаматывамі грамадскіх хваляванняў.

У Беларусі дастаткова часта ствараюцца аддзяленні расійскіх моладзевых арганізацыяў — для некаторых дзеячаў (у тым ліку звязаных з БРСМ) гэта выгадны бізнэс. Асабліва папулярны ён быў у тыя часы, калі Крэмль з падачы Суркова шчодра фінансаваў моладзевыя арганізацыі самай рознай скіраванасці — абы кантраляваць патэнцыйныя «аранжавыя» асяродкі. Існавалі і беларускія аддзяленні **АКМ**, і беларуская **«Нашы»**. Дэлегацыя з Мінска ездзіла на славутыя летнікі на **Селігеры** і г.д. На дадзены момант актыўнасць Крамля ў гэтым кірунку паменшала, але і цяпер ёсць ушлыя дзялкі, гатовыя з'явіцца ў Дугіна ў якасці **«Беларускага адзялення Еўразійскага саюза моладзі»**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Кіраўніком БПЦ прызначылі не беларуса, а разанскага.

На з'ездзе руху «Інтэрнацыянальная Расія» ў 2011 беларуская дэлегацыя выступіла з ініцыятывай стварэння на яго базе «Еўразійскага народнага фронту». У гэтую дэлегацыю увайшлі:

кіраўнік аргкамітэта руху «За Саюз Беларусі і Расіі», кіраўнік інфармацыйна-аналітычнага партала «Імперыя» (Мінск) **Юрый Баранчык** (цяпер пераехаў на працу ў Маскву);

кіраўнік інфармацыйна-аналітычнага партала «Заходняя Русь» (Мінск) **Ігар Зелянкоўскі**;

ад грамадскага аб'яднання «Новая эканоміка» (Мінск) — **Сяргей Шыпценка**;

ад Віцебскага грамадскага аб'яднання «Рускі дом» (Віцебск) — **Андрэй Герашчанка**;

ад Грамадскага аб'яднання чувашоў «Шупашкар» (Мінск) — **Барыс Мілін**;

ад Віцебскай гарадской грамадскай арганізацыі «Рускі культурны цэнтр «Русь» — **Аляксей Мішурны**;

ад Міжнароднага грамадскага аб'яднання чувашоў «Атал» (Мінск) — **Генадзь Аляксандраў**;

ад грамадскага аб'яднання «Рускі Дом» ( Магілёў) — **Юрый Валабуеў**;

старшыня праўлення грамадскага аб'яднання «Рэгіён» (Гомель ) **Валерый Бандарэнка**;

кіраўнік моладзевага грамадскага аб'яднання «Авангард» (Мінск) **Марат Абрамоўскі**.

Гэтыя структуры малалікія (а часам і чыстыя фікцыі), але ёсць сярод іх і сапраўды дзейсныя арганізацыі, часам заснаваныя на арганізацыйнай базе праўладных афіцыйных аб'яднанняў, кшталту БРСМ і «Белай Русі».

У плыні прарасійскіх «маладзёжак» у Беларусі вылучаецца Моладзевае сацыяльна-культурнае грамадскае аб'яднанне «**Русь маладая»** (скарочна — Румол, фактычна частка аднайменнага міжнароднага руху ў розных краінах). Яго лідар **Сяргей Лушч** мае выдатныя адносіны як з беларускімі ўладамі (па лініі «афіцыйнай моладзевай палітыкі»), так і з пасольствам РФ у Мінску (па лініі Рассупрацоўніцтва, правядзення разнастайных канферэнцыяў, спартовых турніраў па каратэ і г.д.).

Румол глядзіць на Беларусь праз прызму дактрыны «Рускага міра»: «Рускі мір» — гэта цывілізацыйнае паняцце, сусветная супольнасць людзей, што атаясамліваюць сябе з рускай мовай, рускай культурай, духоўнымі цэнтрамі якой выступаюць Вялікая, Малая і Белая Русь. Асновай «Рускага міра» з'яўляецца трыадзіны Рускі народ (вялікаросы, маларосы і беларусы). Пры гэтым да рускай цывілізацыі, несумненна, адносяцца і іншыя гістарычна сяброўскія Русі і славянству народы.

Цяпер гэтая арганізацыя, з ініцыятывы пасольства РФ, фактычна робіцца адзіным каардынацыйным цэнтрам для рознага кшталту прарасійскіх «маладзёжак», што апавядае зацверджанай у Маскве стратэгіі іх развіцця

Старшыня Румол Сяргей Лушч на адкрыцці турніра па каратэ ў Мінску 21 снежня 2013 г.: Только здоровая, трезвомыслящая, сильная духом молодежь может созидать будущее. Будущее союзного государства и будущее единого русского мира, частью которого наравне со своими единородными молодыми братьями из Украины и России она является.

Паводле нашых звестак, менавіта асяроддзе Румола арганізуе візіты ў Беларусь расійскіх гастралёраў, кшталту «Цесака»-Марцінкевіча, а таксама арганізоўвае акцыю раздачы ў розных гарадах Беларусі расійскіх «трыкалораў» (рукамі глуханямых выканаўцаў).

Пакуль што русафільскія структуры дэманструюць лаяльнае стаўленне да дзейнага ў Беларусі рэжыму. Аднак, як адзначае нават блізкі да іх па поглядах прадстаўнік праекта «Цытадэль» **Аляксандр Шпакоўскі**, практычна ўсе лідары русафільскай супольнасці ў Беларусі (Юрый Баранчык, Ігар Зелянкоўскі, Сяргей Лушч, Аляксандр Гронскі) «вельмі неадназначна ставяцца да суверэннага беларускага праекту, часта скатваюцца на пазіцыі адмаўлення права беларускай нацыі на самавызначэнне, скептычна ставяцца да беларускай мовы, культуры, афіцыйнай версіі беларускай гісторыі».

## Цукеркі новыя, «Крамлёўскія»

Для таго, каб развіваць і падтрымліваць інфраструктуру «мяккай сілы» ў патрэбным стане, неабходнае фінансаванне. Пры гэтым для паспяховасці разгортвання структураў мае значэнне не толькі аб'ём сродкаў, але і іх эфектыўнае і мэтанакіраванае выдаткоўванне.

Менавіта дзеля гэтага апошнім часам Крэмль узяў курс на большую цэнтралізацыю «падтрымкі суайчыннікаў за мяжой». Бюджэт Федэральнага агенцтва па справах СНД, суайчыннікаў, якія пражываюць за мяжой, і па міжнародным гуманітарным супрацоўніцтве (Рассупрацоўніцтва) увесь час павялічваецца, а **пасольства РФ** у Мінску пераўтвараецца ў галоўны цэнтр размеркавання дапамогі русафільскім арганізацыям.

**Офіс Рассупрацоўніцтва** ў Мінску месціцца ў Доме Масквы на ўзбярэжжы Свіслачы. Менавіта адсюль каардынуюцца акцыі накшталт распаўсюду «георгіеўскіх стужачак» (тых, што атрымалі ў народзе мянушку «каларадскіх»).

Фінансаванне русафільскай дзейнасці па дыпламатычнай лініі ў Беларусі прадугледжанае адмысловым Пагадненнем паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Расійскай Федэрацыі аб заснаванні і ўмовах дзейнасці культурна-інфармацыйных цэнтраў ад 10 снежня 2009. На 2014 год агенцтвам запланавана рэалізацыя выдавецкага праекта «Беларусь як руская святыня», фэст казачай песні ды шэраг іншых праграмаў.

Пры гэтым расійскі бок асабліва не абцяжарвае сябе выкананнем патрабаванняў дэкрэта №24, які вызначае парадак атрымання і размеркавання замежнай бязвыплатнай дапамогі (парушэнне заканадаўства ў гэтай сферы ад 2011 года з'яўляецца ў Беларусі крымінальным злачынствам).

Беларускія спецслужбы пільна адсочваюць і часам прыпыняюць замежнае фінансаванне грамадскіх арганізацыяў з боку заходніх фондаў, але скрозь пальцы глядзяць на фінансавыя плыні з усходу. Апрача Рассупрацоўніцтва, на тэрыторыі Беларусі фактычна бескантрольна дзейнічае цэлы шэраг донарскіх структураў, якія фінансуюць дзейнасць прарасійскіх структураў: **Фонд «Рускі мір»**, **Інстытут рускага замежжа**, **Расійскі Інстытут стратэгічных даследаванняў**, **Фонд публічнай дыпламатыі імя А.М.Гарчакова**, **Інстытут краін СНД** (Інстытут дыяспары і інтэграцыі).

Па словах саміх прадстаўнікоў русафільскіх арганізацыяў, украінскія падзеі патэнцыйна могуць на нейкі час перанакіраваць фінасавыя плыні ад Рассупрацоўніцтва на поўдзень, аднак, як яны кажуць, Масква ўпэўнівае беларускіх русафілаў, што ў доўгатэрміновай перспектыве фінансаванне структураў у Беларусі будзе толькі павялічвацца.

На гэтую сітуацыю спрабавала звярнуць увагу Партыя БНФ, якая ў заяве Сойму ад 15 сакавіка заклікала «беларускія ўлады абмежаваць дзейнасць, якая супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь, такіх дэструктыўных расейскіх цэнтраў, як Рассупрацоўніцтва і Фонд Гарчакова, а таксама зарэгістраваных у Беларусі арганізацыяў, што атрымліваюць фінансавую ды іншую падтрымку з гэтах цэнтраў». Але пакуль «заходнярус» Леў Крыштаповіч займае кіраўнічую пасаду ў Адміністрацыі прэзідэнта, а вядомы барацьбіт супраць беларускай мовы Ігар Карпенка з'яўляецца намеснікам кіраўніка Мінгарвыканкама, «пятая калона» Масквы пачуваецца ўпэўнена.

# Рэстаран «Беларускі пекар» адкрылі ў штаце Місуры

Беларускую кухню можна пакаштаваць у невялікім амерыканскім горадзе Хігінсвілі ў штаце Місуры. Рэстаран *The Belarusian Baker*, што ў перакладзе значыць «беларускі пекар», трымае сям’я Кордэраў: беларуска Наталля **(на фота)** і яе муж Пол.



Наталля апынулася ў ЗША, калі пабралася шлюбам з пастарам Полам. Яна яшчэ ў Мінску працавала пекарам. «Я вельмі сумавала па нашых стравах, калі пачала жыць у Канзасе. Мне не падабаліся амерыканскія тарты — проста салодкая маса. Таму я пачала гатаваць, пекчы. А калі ў нас з Полам нарадзіўся сын, я цалкам перавяла сям’ю на хатнюю ежу».

Уласны бізнэс Наталля адкрыла ў 2011-м: «У той год Пол згубіў працу, і мы пераехалі ў Місуры. У маленькім горадзе было цяжка ўладкавацца. Мой муж таксама добра гатуе, і мы вырашылі распачаць уласную справу.

Мы знайшлі стары дом з цікавай архітэктурай, дзе і адкрылі кавярню. Гэта было напярэдадні Калядаў, і многія прыходзілі да нас і прасіліся арганізаваць вечарыну з паўнавартасным абслугоўваннем. Так кавярня стала рэстаранам».

Цяпер «Беларускі пекар» карыстаецца папулярнасцю сярод мясцовага насельніцтва і займае высокую пазіцыю ў рэйтынгу рэстаранаў штата. Наталля кажа, што ніякага сакрэту няма: у рэстаране яна гатуе таксама, як і дома. Справа ў тым, што амерыканцы зусім адвыклі ад хатняй ежы: «Нават у многіх амерыканскіх рэстаранах ежа часцяком гатуецца з паўфабрыкатаў. У нас усё гатуецца са свежых прадуктаў».

Хоць меню рэстарана збольшага складаюць традыцыйныя амерыканскія стравы, Наталля гатуе і беларускую ежу: «Найбольш папулярны боршч. Амерыканцы завуць яго «вадкай салатай». Узімку я гатую гарачы суп, а ўлетку — халаднік. Людзі каштуюць, ім падабаецца, і яны спрабуюць прыгатаваць боршч дома па рэцэптах з інтэрнэта. Аднак у іх няма досведу прыгатавання буракоў, таму боршч не ўдаецца, а людзі становяцца сталымі кліентамі рэстарана».

«Асноўнымі наведвальнікамі «Беларускага пекара» з’яўляюцца пенсіянеры, — кажа Наталля. — Радуе, што апошнім часам прыходзіць больш моладзі. Аднак бывае, што завітваюць беларусы, якія адмыслова прыязджаюць у рэстаран з «роднай» назвай. Яны абураюцца, што не знаходзяць у меню традыцыйнай беларускай кухні. Такім кліентам я кажу: «Замаўляйце, што хочаце, — я прыгатую».

**Кірыла Хілька**

## У Купалаўскім тэатры паставяць спектакль «Тата»

У аснове будучага спектакля — п’еса «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў». Яе аўтар Дзмітрый Багаслаўскі — новая зорка беларускай драматургіі.

Яго п’есы, адзначаныя прызамі і ўзнагародамі міжнародных драматургічных конкурсаў і фестываляў, ідуць у Кіеве, Маскве, Абакане, Улан-Удэ, Новасібірску і Уфе. Цікава, што ў верасні мінулага года «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў» паставілі ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.

Паводле сюжэта, былы вайсковец Аляксандр (яго ролю ў розных складах будуць выконваць Раман Падаляка або Сяргей Рудэня) вяртаецца пасля смерці бацькі (Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Гарбук) у родны дом. Сёстры Аляксандра хочуць прадаць будынак. Галоўны герой супраць. Аляксандр спрабуе разабрацца, ці любіў яго бацька, які нават пасля смерці прыходзіць да яго ў сны.



**Маладога драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага ўпершыню паставяць у Купалаўскім.**

Рэжысёрам «Таты» будзе Кацярына Аверкава (у Купалаўскім яна ставіла спектаклі «Зіма» і «Офіс»). Дэкарацыі рыхтуе галоўны мастак тэатра Барыс Герлаван. Касцюмы — Вольга Шчарбінская. Музыку да пастаноўкі піша Мацвей Сабураў.

**Мікіта Капкоў**

## «Белтэлекам» запусціў тры эратычныя тэлеканалы

Інтэрактыўнае тэлебачанне «Зала» ад «Белтэлекама» прапанавала кліентам новы тэматычны пакет «Начны».

Для карыстальнікаў будуць даступныя каналы «Руская ноч» (трансляваўся і раней), а таксама «Ню Арт ТБ» і галандскі *Blue Hustler*.

«Начны» каштуе 27 450 рублёў штомесяц.

**ЯМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Ці ёсць жыццё на Зямлі...

Натрапіў у Фэйсбуку на здымкі з Аральскага мора. Дакладней, з Муйнака, горада і калісьці паўвыспы, вакол якіх, гэта добра вядома, тое мора было...

Звычайна ў такіх выпадках гавораць «нахлынулі ўспаміны». Але я ўбачыў карабель пасярод пустыні. І зразумеў, што ані ў якія ўспаміны ён не адплываў, проста апусціўся на дно...

Па нейкім дзіўным супадзенні карабель завецца «Белоруссия», хаця на здымку назвы не відаць. Ды і адкуль яна на саржавелым касцяку? Некуды падзелася разам з морам. Але я ўпэўнены, што гэта менавіта «Белоруссия» — невялічкі рэфрыжэратар для перавозкі замарожанай рыбы.

Толькі вось што марозіць? Рыбы няма. Увесь флот, што заўжды здабываў рыбу ў заліве, — на беразе. Уздоўж берага нерухома ляжаць на спякоце дварнякі, утыкнуліся пысамі ў гнілаватую ваду...

Заліў створаны Амудар’ёй, але жывой вады ў ім усё меней і меней, бо ўсё болей і болей адбіраецца яе на арашэнне баваўняных палёў. Недзе ў плаўнях яшчэ варушыцца сёе-тое жыццё, можна нават сустрэць тыгра. А ў Муйнаку, акрамя сабак, ішакоў ды свінняў, што рохкаюць у гарачым пяску проста пасярод вуліц, жыцця няма. Мо толькі яшчэ ў сталоўцы, дзе побач з апустошанымі бутэлькамі з-пад гарэлкі спяць тварамі ў талерках з халоднымі макаронамі заезджыя ў пошуках працы людзі.

Ці ж гэта жыццё?

Мы з Гольбай таксама заезджыя. Але жывём у Квашыных. Спім у прахалодзе, сёрбаем украінскія баршчы, ямо разварыстую — дзіва, як яна тут расце! — бульбу. Квашын грошы з нас не бярэ. Ды й з чаго ўзяць? Акрамя таго, што я зарабіў папярэднім настаўніцтвам у піянерлагеры, у нас нічога няма — толькі на зваротную дарогу. Намер, праўда, быў шыкоўны — зарабіць на ўлове рыбы, на траўлерах, сейнерах... «Звёздные мальчики» , знакамітая па тым часе аповесць Васіля Аксёнава, рабілі сваю справу. Толькі вось да якога месца Квашыну тыя «мальчики»?! Студэнты, 1963 год... Калі што сапраўды да месца, дык гэта запіска Лёні Макаранкі, сваяка Квашына і нашага сябра. Жывём, чакаем, пакуль з’явіцца якая нагода разлічыцца, скончыць з нахлебніцтвам...

Насамрэч, проста жывём.

Квашыны тут — найвялікшы аўтарытэт, закон і парадак. З сям’ёй сасланых на Муйнак украінскіх кулакоў, што, як я цяпер разумею, выратавала іх ад Галадамору. Муйнак спрадвек ссыльнае месца — ад Кацярыны II, што ўтварыла тут рэзервацыю пракажоных, а потым саслала пугачоўскіх казакаў. Але ў рэшце рэшт ссыльныя ды іх нашчадкі зладзілі на Муйнаку сваё, сяброўскае з каракалпакамі, разумна-працавітае жыццё. У асноўным, на ўлове і перапрацоўцы рыбы. Ды якой! Ад печкуроў да асятроў. Толькі вось сыходзіць вада...

Камбінат, што праўда, нешта яшчэ перарабляе ў кансервы. І Квашын нарэшце прыстроіў нас збіваць пад іх скрыні. Першую збівалі

### Што ні дзень — мора... мора... мора...

больш за гадзіну, хаця, здавалася, што тут складанага — бі ды бі... Спякота, плюс 50 ў цяні, але ценю няма. Нават слова такога няма. Толькі «халадок». Дасведчаныя збівальшчыкі з «халадка», то бок з навеса, і пачынаюць. Але нам так карцела хутчэй зарабіць!

Кінулі скрыню на зямлю — яна і разваліліся. Паглядзелі адзін аднаму ў вочы і — на мора.

Мора!

Што ні дзень — мора...мора... мора...

Гольба — мастак, на кашулі вышытая галубка Пікаса, робіць на паперках нейкія замалёўкі. А я гляджу на мора і ніяк не магу дакладна пазначыць ягоны, быццам з нейкай іншай планеты, колер. Такога колеру, мусіць, на Зямлі больш няма.

...Знясіленыя спёкай, мы дапамагаем зносіць у трум «Белоруссии» скрыні з кансервамі, за што стары капітан у белым кіцелі і фуражцы з «крабам» абяцаў даставіць нас да Аральска, праз усё мора. Пляшку гарэлкі ўзяў з годнасцю прафесіянала, бы сапраўдны марскі воўк, падняўся ў сваю рубку. Больш мы яго не бачылі.

Мы ўвогуле больш нікога не бачылі на тым караблі акрамя адзін аднаго і жанчыны з дзіцём, што везла ў Аральск ці не з дзясятак бітонаў з агромністымі пунсовымі памідорамі.

Праплылі дзень, надвячоркам Гольба забіўся ў куток цеснага кубрыка, а я ўлёгся спаць на палубе, у ратавальнай шлюпцы. Доўга ўглядаўся ў чорнае, спрэс у буйных зорках неба. Такіх блізкіх, што, здавалася, ліхтары на мачце літаральна плывуць сярод іх. Поўнае адчуванне Космасу, тваёй асабістай еднасці з ім.

Апоўначы на твар пападалі першыя пырскі...

Такое мо здараецца раз у жыцці — калі душа з касмічнай хуткасцю адлятае да Бога і ў той жа момант звяргаецца ў чорнае пекла, а цела ледзь трымаецца за металічныя парэнчы ў бясконцым і безнадзейным чаканні душы... Гольбы няма. Нікога няма. Чорная вада, белая пена ды памідоры, што катаюцца ў пене разам з бітонамі ад носа да кармы і ад кармы да носа...

Толькі ў Мінску зямля супакоілася пад нагамі.

...Колькі ж нам яшчэ плыць на караблі пад назвай Зямля?

Бо, калі сапраўды нехта ўглядаецца ў нас, як мы ўглядаемся ў Марс ці Венеру, і бачыць касцяк карабля пасярод пустыні, дзе яшчэ нядаўна плёскалася і бушавала адышоўшае ў нябыт мора, наўрад ці атрымае станоўчы адказ на пытанне, ці ёсць жыццё на Зямлі...

*kamerton_41@mail.ru*

# Сяргей Жадан: Час не для расчаравання, а для мабілізацыі

39-гадовы Сяргей Жадан — папулярны ўкраінскі пісьменнік. Ён жыве ў Харкаве, а месяц таму свет абляцелі кадры, на якіх яго да паўсмерці збіваюць расійскія штурмавікі. Акрываўленае аблічча ўкраінскага пісьменніка стала аблічам Еўропы XXI стагоддзя, якой зноў пагражае перадзел межаў і нацызм. Цяпер хваля ідзе з усходу. Мы патэлефанавалі Сяргею Жадану, каб ён расказаў пра сітуацыю ва Усходняй Украіне і настроі насельніцтва.





**Сяргей Жадан**

Нарадзіўся ў 1974 у Луганскай вобласці (Украіна). Паэт, празаік, перакладчык. Адзін з найбольш папулярных творцаў Украіны. Ягоныя раманы «Дэпеш Мод» і «Anarchy in the UKR» выходзілі па-беларуску. Колькі тыдняў таму свет пабачыла новая кніга Жадана «Дынама Харкаў». Жыве ў Харкаве.

**«Наша Ніва»: Не так даўно Вы казалі, што сепаратызм на ўсходзе Украіны не пройдзе. Не адмаўляецеся ад сваіх словаў?**

**Сяргей Жадан:** Калі мець на ўвазе пад сепаратызмам настрої насельніцтва ў рэгіёнах, то я і надалей трымаюся свайго пункту погляду. Гэта не сепаратызм — гэта добра спланаваная спецаперацыя, якую праводзіць суседняя дзяржава. Я памятаю, як гэтыя сепаратысцкія мітынгі пачыналіся, першапачаткова яны былі больш шматлікімі, там было больш ідэйных людзей. Сёння ж там задаюць тон баевікі, якія невядома адкуль узяліся, многія з якіх не грамадзяне Украіны. Мэтай такіх мітынгаў з'яўляецца толькі дэстабілізацыя сітуацыі.

**«НН»: Здаецца, дэстабілізаваць удаецца. На выхадных у Харкаве было горача. Васьмёра чалавек дагэтуль знаходзяцца ў шпіталях.**

**СЖ:** Так, пабілі каля 50 чалавек. Разграмілі станцыю метро. Узброеныя бітамі і палкамі баевікі білі мірных дэманстрантаў, жанчын. Спрабавалі захапіць будынак гарсавета. Пасля ў іх быў пікет ля СІЗА, дзе сядзелі арыштаваныя сепаратысты. А скончылася ўсё бойкай з мясцовымі футбольнымі ультрас харкаўскага «Металіста».

**«НН»: Што за людзі з георгіеўскімі стужкамі выходзяць на вуліцы ўкраінскіх гарадоў пратэставаць за Расію?**

**СЖ:** Мне нават цяжка ацаніць. Раней, сапраўды, выходзілі мясцовыя людзі з прарасійскімі і прасавецкімі поглядамі, але яны былі настроеныя на дыялог. Цяпер жа ўсё болей людзей, што выходзяць на вуліцы як на баявую аперацыю. Ударныя атрады антымайдану становяцца агрэсіўнымі, некантраляванымі. Хаця нехта ж іх кантралюе, хто тыя лялькаводы — найбольшая інтрыга.

**«НН»: Лялькаводы ж усе ў Крамлі, не?**

**СЖ:** Відавочна. Але я маю на ўвазе нават не Крэмль і тых, хто гэтую аперацыю прыдумаў. Я хачу ведаць канкрэтна, хто іх у Харкаве кантралюе. Не Пуцін жа ім тэлефануе па мабільным тэлефоне, правільна? Мне цікава, хто непасрэдны начальнік баевікоў, хто займаецца агентурай, каардынуе іх. Гэтае пытанне да СБУ.

**«НН»: Чытаў, што ў Харкаве вялікая праблема з міліцыяй, якая працягвае падтрымліваць Януковіча.**

**СЖ:** Яны не падтрымліваюць сённяшнюю ўладу, сённяшняга міністра ўнутраных справаў, а ці падтрымліваюць Януковіча — гэта ўжо іншае. Я пастаянна чую аб сабатажы міліцыі, што яны падтрымліваюць сепаратыстаў. Шмат у чым гэта праўда. Але разам з тым харкаўская міліцыя стаіць ля абласной адміністрацыі і абараняе яе.

**«НН»: З Беларусі здаецца, што падзеі ва Усходняй Украіне вельмі драматычныя, што Украіне цяжка адстаяць Данбас.**

**СЖ:** Па-любому будзе цяжка адстаяць. І Данецкую, і Луганскую вобласці. Ды і з Харкаўскай нічога невядома. Расія праводзіць абсалютна нахабную, цынічную палітыку. Разам з тым мы маем справу з няяснай палітыкай Кіева. Яны абвяшчаюць ультыматум, а па сканчэнні часу забываюць пра яго. Яны заяўляць аб пачатку антытэрарыстычных аперацый, але зноў забываюцца. Такая непаслядоўнасць пакідае шмат прэтэнзій.

**«НН»: Слухаючы такое, узнікае пытанне: ці не расчараваныя Вы вынікамі Майдану?**

**СЖ:** Вынікаў пакуль што няма. Сітуацыя не вырашылася. Пострэвалюцыйная фаза з'яўляецца цалкам натуральнай. Многія хацелі ўжо на другі дзень пасля ўцёкаў Януковіча пабачыць ва ўладзе новыя твары, новыя прынцыпы жыццядзейнасці ўлады. Плюс пагроза з боку Расіі, анексія Крыма. Многіх гэта заганяе ў дэпрэсію. Але цяпер час не для расчаравання, а для мабілізацыі. Мы рызыкуем згубіць вельмі шмат, мы рызыкуем згубіць Радзіму.

**«НН»: У апошняй сваёй калонцы на сайце Tsn.ua Вы пісалі, што ўсё толькі пачынаецца.**

**СЖ:** Канечне. Гэта не 2005-ы год. Украінцы, якія ўсю зіму выходзілі на вуліцы, падстаўлялі сябе пад кулі, для іх гаворка не ішла пра змену прэзідэнта, міністраў. Гаворка ішла пра сістэмныя змены ў краіне. Пакуль яны не пачнуцца, грамадства не супакоіцца і Майдан не разыдзецца. Майдан, канечне, не фізічны, а як нейкі сімвал барацьбы і грамадскага супраціву.

**«НН»: Вы асабіста на Майдане стаялі дзеля чаго?**

**СЖ:** Стаяў за сваю будучыню, за сваю краіну. Мне здавалася, што мы яе губляем. Тое самае мне здаецца і цяпер.

**«НН»: Пра Майдан пісаліся вершы і песні. Пра сённяшнія падзеі на ўсходзе таксама будуць пісаць?**

**СЖ:** Усё залежыць ад таго, як гэта скончыцца. Падручнікі па гісторыі пішуць пераможцы. Мне б не хацелася, каб мае дзеці па такіх падручніках вучылі факты аб геройчным паўстанні народа Данбаса супраць «фашысцкай акупацыі», якая прыйшла з Кіева. Я ўсё ж спадзяюся, што сітуацыя будзе ўрэгуляваная мірна. А вершы і песні будуць пра шчаслівую і мірную будучыню. Хоць сёння такія прагнозы і выглядаюць утапічнымі.

**«НН»: Моўны фактар ва Усходняй Украіне важны?**

**СЖ:** Зусім не важны. Я жыву ў Харкаве і ў штодзённым жыцці размаўляю толькі па-ўкраінску. Я не памятаю, калі апошні раз у мяне былі праз гэта праблемы. Я магу сур'ёзна паставіцца да патрабаванняў сепаратыстаў па дэцэнтралізацыі ўлады, але калі яны пачынаюць гаварыць пра ўціск рускамоўных, то гэта смешна. Пагроза існуе для ўкраінскай мовы, а не для рускай.

**«НН»: Дарэчы, а сепаратысты ніяк не выкарыстоўваюць украінскую мову?**

**СЖ:** Не. У іх, наадварот, агрэсіўнае стаўленне да ўкраінскай мовы, культуры, ідэалогіі, гісторыі, дзяржаўнасці.

**«НН»: Сяргей, я так разумею, што Вы не выключаеце таго, што ваш горад можа аказацца ў іншай дзяржаве?**

**СЖ:** Не выключаю. Але я веру, што такі сцэнар прывядзе да вялізнага супраціўстаяння і адпору захопнікам. Усход Украіны — гэта не Крым. Мясцовыя жыхары не гараць жаданнем пераходзіць у падпарадкаванне крамлёўскім кіраўнікам. Большасць насельніцтва ўсходу адчувае сябе ўкраінцамі. Гэта іх краіна, іх Радзіма. Я ўпэўнены, што яны будуць біцца за Украіну. Нават калі Расіі ўдасца захоп, то гэта ўсё не скончыцца маланкавай перамогай, а можа перарасці ў крывавыя і трагічныя наступствы.

**«НН»: Прабачце, калі ўсё будзе развівацца па найгоршым сцэнары і Харкаў усё ж выйдзе са складу Украіны, што асабіста Вы будзеце рабіць?**

**СЖ:** Шчыра кажучы, ніякага плана не маю. Праз два тыдні я збіраюся ехаць у Луганск [былы Варашылаўград. У Жадана адзін з раманаў называецца «Варашылаўград» — НН]. З замежнымі сябрамі ладзім там артпраект. Дарэчы, у ім будуць браць удзел беларускія музыкі. Пакуль ёсць магчымасць, я рыхтуюся да гэтага праекта.

**«НН»: Расійская прапаганда нярэдка выкарыстоўвае штамп, што жыхары Усходняй Украіны адчуваюць сябе «людзьмі другога гатунку».**

**СЖ:** Гэта сапраўды штамп. Паглядзіце на склад Вярхоўнай Рады Украіны. Там, здаецца, трацiна дэпутатаў з Усходняй Украіны. Казаць, што усход быў абдзелены, — абсалютнае глупства. Улада ў нас была цалкам з Усходняй Украіны. Гэта такі кепска прыдуманы маніпуляцыйны механізм, каб выклікаць узбуджэнне ў людзях, што не хочуць думаць. Што значыць — яны былі пакрыўджаныя? Данецк і Луганск — датацыйныя рэгіёны з Кіева. Харкаўская ж вобласць датацыйнай не была. Нельга казаць, што да іх ніхто не прыслухоўваецца. Гэта такі інфантылізм, які можа кепска скончыцца, калі Ахметаў кажа, што ўсе павінны прыслухоўвацца да Данбаса. Дык а хто крыўдзіць Данбас?

**«НН»: Чым беларусы сёння могуць дапамагаць Украіне?**

**СЖ:** Мне здаецца, што беларусам не Украіну трэба падтрымліваць, а думаць пра захаванне ўласнай дзяржаўнасці. Апетыты Крамля вельмі насцярожваюць. У іх пачынаюцца прэтэнзіі да Балтыі. Невядома, што стаіць за перамяшчэннем расійскіх войскаў ля беларускай мяжы. І ваш народ, і наш знаходзяцца пад пастаянным прэсінгам усходняга суседа. Нам трэба вучыцца на памылках адзін аднаго. Трэба абараняць сваю краіну, пакуль яна існуе.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Рыхтуймася, панове!

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Афіцыйны Мінск рыхтуецца да чэмпіянату свету па хакеі з шайбай. Рыхтуецца як да ваенна-паліцэйскай аперацыі

Ужо тое, што чэмпіянат пачынаецца 9 мая, пра нешта ды кажа. Але больш цікава было чытаць паведамленне пра тое, што неба над Менскам падчас правядзення ЧС—2014 будуць патруляваць баявыя верталёты і знішчальнікі. Як той казаў, для поўнага камплекта не хапае толькі баявых катараў на Свіслачы.

Ствараецца ўражанне, што на Беларусь нехта збіраецца напасці, бо ў час чэмпіянату, як нас інфармуюць, актыўна будуць выкарыстоўвацца таксама самалёты далёкага радыёлакацыйнага выяўлення. Гэтымі самалёцікамі Ваенна-паветраным сілам Беларусі дапамогуць ВПС Расіі.

Учора, за месяц да чэмпіянату, прайшло адмысловае пасяджэнне Рады бяспекі.

Само сабой, удзельнікі пасяджэння абмяркоўвалі, як «гарантаваць бяспеку ўдзельнікаў і гасцей». Але галоўнае, як заявіў Лукашэнка і як перадае казённае Беларускае тэлеграфнае агенцтва, — «не дапусціць ніякіх правакацый».

Што маецца на ўвазе пад словам «правакацыі», мы, беларусы, добра ведаем. Гэта значыць — не дапусціць ніякіх актаў пратэсту супраць дыктатуры, супраць падпарадкавання нацыянальных інтарэсаў Беларусі інтарэсам Крамля і да т.п.

Калі я штосьці разумею пра гэты рэжым, дык лёгка магу прадказаць, што апазіцыйнае дэмакратычнае поле Беларусі перад пачаткам чэмпіянату чакае вялікая зачыстка.

Хапун пачнецца да прыезду афіцыйных замежных дэлегацый і журналістаў, бо перад «органамі» пастаўлена задача «зрабіць так, каб гэтыя меры бяспекі... не кідаліся ў вочы» ўдзельнікам і гасцям спаборніцтваў.

Зноў апазіцыянеры-дэмакраты будуць мацюкацца, зноў будуць размахваць рукамі, выкрыкваць антыпрэзідэнцкія лозунгі, хапацца за гузікі і пагоны доблесных ахоўнікаў парадку... Ну, і асабліва актыўная АГП ужо мае праблемы з Міністэрствам юстыцыі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Аўтограф на сэрцы

Калі пачалася вайна, мне было 5 год, маёй сястры Лілі — 3. Цяпер мне 79. Толькі… жыццё прадаўжаецца. Вельмі хочацца пабачыць свой успамін у «Нашай Ніве».

«Мама, паглядзі, якія кветкі я прынёс для бабулі. Гэта васількі. Яны быццам жывыя... Я баюся дыхнуць, каб яны не зніклі». Я глядзела ў шчаслівыя вочы сына, у якіх застыла сінеча мірнага неба. І мяне нешта скалыхнула і з болем адгукнулася ў сэрцы. Паплылі ўспаміны дзяцінства, абпаленага вайной.

1941 год. 22 чэрвеня. Мы з сястрой Ліляй спяшаліся ў поле за хутарам па васількі. Раптам страшэнны гул самалётаў. У жыта, зусім блізка каля нас, упалі бомбы. Мы, ледзь жывыя ад страху, пабеглі, шукаючы, дзе гусцейшае жыта, каб схавацца. Самалёты кружылі над намі...

Мама знайшла нас і кажа: «Вайна». Я ўпершыню пачула гэтае слова.

...Аднойчы ў нас з'явіліся незнаёмыя людзі. Партызаны. Наш хутар знаходзіўся недалёка ад мястэчка Далятычы, адкуль родам мае бацькі. Гэта наша слаўная Наваградчына, менавіта там нараджалася і адтуль распаўсюджвалася беларуская нацыянальная культура. Хутар амаль з усіх бакоў акружаны лесам, таму ў нас спыніўся партызанскі дазор. Начамі мама мыла ў попеле бялізну партызанам, кіпяціла бінты, карміла і лячыла хворых і раненых. Дзвярэй не зачынялі, каб хутчэй уцячы, калі наляцяць немцы. У хаце, як на двары, гаспадарыць вецер. Сняжынкі залятаюць. Мы пастаянна кашлялі, прастуджваліся...

Днём прыязджалі немцы, абнюхвалі кожны вугал, шныпарылі, шукалі партызанскіх слядоў... Пад саломай, што замяняла мне матрац, ляжала нешта партызанскае. Немец наблізіўся да ложка. Я ад страху заплюшчыла вочы... Падышла мама ў слязах і кажа: дзіця хворае, тыф, тыф... Гэтае слова немцы ведалі і баяліся заразіцца. Яны выскачылі з хаты. Вынеслі каністры з бензінам, запалілі паходні. З усіх бакоў акружылі хату. Мама не лямантавала, не прасіла ў немцаў літасці... Абняла мяне і Лілю, прыгалубіла да сябе. Яна не плакала. Толькі глядзела ў акно: белы снег і чорныя людзі з паходнямі.

І вось гэту мёртвую цішыню парушыў гул матацыкла. З матацыкла выскачыў немец, паклікаў тых, хто стаяў з паходнямі. Страшныя людзі ў чорным пакідалі паходні, пагрузілі каністры з бензінам у машыну і з'ехалі.

Мы, прысуджаныя да страшнай смерці, засталіся жыць.

Прайшло многа гадоў, пакуль мы даведаліся, што ў чалавека ў форме нямецкага афіцэра білася сэрца беларуса-героя... Ён выратаваў ад смерці многія сем'і, звязаныя нейкім чынам з партызанамі, на якіх былі загатаваны спісы для знішчэння. Апрача нашых Далятыч, гэта вёскі Чапунь, Хадасы, Чарэшля, Воўкарась і іншыя. Да іх блізка падступалі лясныя масівы.

Ён ведаў, што пасля заканчэння вайны новая ўлада яго жывым не пакіне. Ён не зможа нікому нічога даказаць, не паверыць: немцам служыў — вораг. Такі будзе прысуд. Прыйшлося эміграваць. Доўгі час пра гэта гаварылі шэптам, каб не наклікаць бяду на сябе...

Няхай нашы ўнукі і праўнукі ніколі больш не бачаць вайны, ніколі!

**Роза Рымар, Гродна**

**Водгукі**

# Катастрофа не толькі ў Гомелі

**«Гомель. Катастрофа беларускай мовы» (№13).**

Выйдзем на вуліцу ў Віцебску і што ўбачым? Добра, калі з сотні надпісаў, білбордаў, шыльдаў на пяць беларускамоўных сярод іх вокам натыкнемся. Візуальна на 90% расійскі горад. Вынік своеасаблівa зразуметага дзяржаўнага двухмоўя, а насамрэч — самага відавочнага, бессаромнага аднамоўя. Нас абураюць словы расіянаў, што Расія — там, дзе расійская мова, а гэтыя ж словы не такія і несправядлівыя.

Чым адрозніваецца ў моўным плане расіянін ад удмурта, эвенка, татарына, беларуса? Тым, што, нават гадамі, дзесяцігоддзямі жывучы сярод прадстаўнікоў карэнных этнасаў, якія і сваю мову, і ягоную добра ведаюць, ён заўсёды амаль, за нячастым выключэннем, зацята, упарта, агрэсіўна аднамоўны. На іншым засяроджваецца ўвага — на пустых словах аб узаемапавазе, супольных каранях ды непарушным сяброўстве, сапраўдную вартасць якіх мы сёння добра бачым ва Украіне.

Сядзяць у студыі тэлеканала галоўныя рэдактары дзяржаўных папяровых СМІ і разважаюць пра вытокі ды наступствы нацыяналізму ў суседзяў. А каб ім замест таго, што чужым гэтак ужо пераймацца, сабрацца ды пра сваё хоць раз пагаманіць. Пра тую ж мову, напрыклад. Штосьці прапанаваць, зрабіць нейкія захады па выпраўленні становішча.

А там, глядзіш, і чыноўнік каторы схамянецца, выдаючы бізнэсоўцу ліцэнзію на адкрыццё крамы ў цэнтры Гомеля ці Віцебска, парупіцца нагадаць аб важнасці афармлення шыльды па-беларуску.

Агулам моўнай праблемы гэтым, канечне, не вырашыш, а хоць крыху выправіць сітуацыю і можна было б. Як сама мова — арганізм складаны, так і органы яе спасціжэння — няпростыя. Мозг, вуха, язык, вока — усё тут аднолькава важнае і найлепш спрацоўвае тады, калі маюцца для нармальнай працы хоць нейкія перадумовы, нейкі стымул, нейкая перспектыва.

**Франц Сіўко, Віцебск**

### Хачу падзякаваць супрацоўнікам Ждановіцкай амбулаторыі

Хачу падзякаваць супрацоўнікам Ждановіцкай амбулаторыі Мінскага раёна за добрае стаўленне і кампетэнтную медычную дапамогу. Каб усе дактары і медработнікі былі такімі спагадлівымі, менш бы людзі і хварэлі.

**З паклонам, Надзея Пракопчык, Ждановічы (Мінскі раён)**

### Паштовая скрынка

**Святлане Г. з Гомеля.** Ваша спрэчка з суседзямі аб памеры кампенсацыі за заліццё — не тэма для публікацыі ў агульнанацыянальнай газеце. Вырашайце гэтае пытанне праз суды і ЖЭС.

**Вясёлым пяром**




**Кастусь Макаравіч, Гомель**

**Анекдот**

Расія сёння — гэта Амур: голы, узброены да зубоў і лезе да ўсіх са сваім каханнем...

**Віктар Ледзенеў, Мінск**

**Пытанне-адказ**

## Як вам можна дапамагчы у распаўсюджванні нашай мовы?

**Андрусю Q.** «Ці плануецца працягваць вялікую справу, якую рабіў Юрась Бушлякоў, — даць магчымасць тым, хто любіць мову, удасканальваць яе? Ці ведаеце пра спробы выдання беларускага тлумачальнага слоўніка класічным правапісам? Парайце месцы, дзе можна набыць літаратуру класічным правапісам, можа, штосьці выходзіць у замежжы? Як вам можна дапамагчы ў распаўсюджванні нашай мовы?»

1) Удасканальваць мову найлепш, чытаючы добрых аўтараў. Таксама мы на сайце NN.BY публікуем падборкі тыповых памылак. Знойдзеце іх у рубрыцы «Мова».

2) Класічным правапісам — здаецца, не рыхтуецца. Але Вікіпедыя дае найлепшую магчымасць калектыўнай працы над такім слоўнікам. Ведаем, што Інстытут мовазнаўства АН (цяпер аддзяленне ў аб'яднаным інстытуце мовы і літаратуры) гатовы да выдання 14-тамовага акадэмічнага Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы.

3) На нашу думку, канцэнтрацыя на класічным правапісе на сёння не плённая. Прынамсі, украінцы так не рабілі і не робяць. Наадварот, яны аддалі перавагу дзейнасці на школьным правапісе.

4) Літаратура класічным правапісам цяпер з'яўляецца ў выданнях «Arche» і радыё «Свабода». У замежжы вельмі мала друкуецца, там інтэлектуальныя сілы невялікія. Кнігі класічным правапісам знойдзеце ў мінскіх кнігарнях. А таксама ў інтэрнэце.

5) Распаўсюджванне мовы — тут спосабы дзейнасці ясныя. 1) Умацаванне СМІ на беларускай мове + неінфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў (Вікіпедыя). 2) Развіццё адукацыі і навукі на мове. 3) Стварэнне вялікіх твораў мастацтва на мове. 4) Грамадская дзейнасць (гуртаванне людзей, для якіх мова дарагая). 5) Палітычнае змаганне (заваёва шанцаў для дзяржаўнай падтрымкі мовы). У аснове ўсяго гэтага стары як свет прынцып: трэба, каб людзі, якім мова дарагая, добра зараблялі, узбагачаліся і аддавалі на гэтыя пяць задач дзесяціну сваіх прыбыткаў. Паказальна, што ворагі беларушчыны найбольш заклапочаныя на сёння тым, каб адрэзаць яе ад фінансавых рэсурсаў, і беларускія праекты задыхаюцца ад безграшоўя.

# Значкі з Пагоняй, маркі, бел-чырвона-белыя медалі…

Унікальныя **артэфакты эміграцыі** перадалі ў Мінск.

Архіўныя матэрыялы і музейныя экспанаты перадаў Беларускі інстытут навукі і мастацтва з Нью-Ёрка ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, што ў Мінску.

Гэты тыя матэрыялы, якія атрымлівала гісторык **Наталля Гардзіенка** ў прыватным парадку. Але было прынята рашэнне перадаць калекцыю ў спецыялізаваную ўстанову, каб даць магчымасць працаваць з імі большай колькасці навукоўцаў.

«БІНІМ ствараўся з ідэяй гуртавання беларускіх інтэлектуалаў у эміграцыі. І з ідэяй збірання ўсяго беларускага, што знаходзілася за мяжой. Калекцыя БІНІМа — гэта не толькі ліставанні, гэта і розныя архівы пісьменнікаў, мастакоў. Калекцыі паштовак, марак, значкоў, медалёў, бланкаў з беларускай сімволікай. Усё, што выдавалася ў беларускіх асяродках Канады, ЗША, Аўстраліі, Вялікабрытаніі… Ідэя сёняшняга кіраўніка БІНІМа Вітаўта Кіпеля ў тым, што беларускія скарбы павінны захоўвацца ў Беларусі і быць даступныя для даследчыкаў», — адзначыла Наталля Гардзіенка.


Гісторык Наталля Гардзіенка.


Паэт Сяргей Панізнік зацікавіўся маркамі БНР.

**Ганна Запартыка**, дырэктар архіва-музея, заўважыла, што да іх і раней паступалі матэрыялы пра беларусаў з-за мяжы — з БІНІМа, іншымі шляхамі. Гэта і архіў Масея Сяднёва, Міхася Забэйды-Суміцкага, сямейны фонд Максіма Багдановіча…

Што ж перадалі цяпер? Аўтографы беларускіх літаратараў 1920-х гадоў. Гэта **Паўлюк Трус**, **Тодар Кляшторны**… Тут і рукапісны варыянт кнігі **Алеся Салаўя**, якую ён пісаў у Аўстрыі ў канцы 1940-х. Анкеты дзеячаў эміграцыі, якія ўступалі ў БІНІМ, — больш за пяць дзясяткаў (**Кастусь Акула, Мікола Равенскі, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў**). Фрагменты архіваў **Арсеннявай, Юркі Віцьбіча**… Паштоўкі пачатку XX ст. з беларускімі тэмамі. Нацыянальны строй **Раісы Жук-Грышкевіч**. Саматканыя паясы. Усяго шэсць скрыняў.

На жаль, гэтыя дакументы яшчэ тры-чатыры гады будуць апрацоўвацца, перад тым як трапяць у рукі даследчыкаў.

Па словах Наталлі Гардзіенкі, БІНІМ гатовы перадаваць матэрыялы. Але рабіць тэхнічна гэта не заўжды проста.

І гісторык заклікала спецыялістаў, якія бываюць у Нью-Ёрку, звязвацца з ёй і прывозіць у Мінск дакументы. Бо, на жаль, пошта працуе не так спраўна, і здараліся выпадкі, калі нешта не даходзіла да Беларусі.

**Сяргей Макарэвіч, фота Насты Храловіч**

## Апошні верш Барадуліна застаецца нерасшыфраваным

Мінула сорак дзён ад 2 сакавіка, калі не стала Рыгора Барадуліна. Да гэтай даты выйшла новая кніга паэта — «У неба пехатою. Апошнія вершы».

Свой сакрэт у мудрага каўша,
Поўнага цудоўнага напою.
Пойдзе беларуская Душа
Да настрою ў неба пехатою.

Гэта страфа з верша, які даў назву кнізе. Яна выйшла ў выдавецтве «Медыял», дзякуючы біёграфу аўтара Сяргею Шапрану і фундатару Паўлу Бераговічу.

Кнігу склалі творы мінулай восені і зімы. Частка іх друкавалася, але некалькі дзясяткаў вершаў друкуюцца ўпершыню.



Неба — трывалая столь.
Марна стараецца люць.
Госпад!
Ачалавеч мой боль,
Свойскі мой страх збязлюдзь!

Гэтым вершам, пад якім стаіць дата 22.02.2014, сканчаецца кніга. Але ён не апошні з тых, якія ўдалося расшукаць укладальніку рукапісаў. Праўда, не ўсе радкі з-пад саслабелай рукі паэта ўдалося пакуль расчытаць. У прыватнасці, верш, напісаны 28 лютага.

«Гэта апошні верш у нататніку Барадуліна. Верш прысвечаны Бураўкіну. Два першыя радкі мы з Валянцінай Міхайлаўнай разабралі, а два астатнія радкі, на жаль, пакуль не. Пакуль ніхто не змог расшыфраваць почырк апошніх дзён дзядзькі Рыгора», — кажа Шапран.

Пасля выдання кнігі апошніх вершаў Барадуліна Шапран пачаў падрыхтоўку кнігі ўспамінаў пра яго. Яна мае выйсці да 80-годдзя народнага паэта, якое будзе ў наступным годзе 24 лютага.

**Паводле радыё «Свабода»**

**Фотафакт**



### Старадаўняя гліняная стайня ў Астравецкім раёне

Калісьці гэта быў масавы прыём у Беларусі — будаўніцтва з экалагічна чыстага, мясцовага матэрыялу. Мінусам гэтых пабудоваў была патрэба ўвесь час іх паднаўляць. Гэтаксама, як і самыя знакамітыя гліняныя збудаванні свету — у Сахары, у Тымбукту.

Рэліктавую пабудову адшукала на Астравеччыне журналістка Ганна Чакур. «80-гадовы гаспадар гэтай будынiны расказаў, што некалі гэта была стайня, — піша яна, — даўжынёй каля 100 метраў. Нават яго дзед не памятаў, калі яе пабудавалі. Дрэва даўно згніло б, а глінка пратрымалася». Стайня была збудавана, магчыма, у сярэдзіне XIX стагоддзя па вельмі старой тэхналогіі з выкарыстаннем верасу.

## Сцісла

### Aerosmith выступяць у Вільні, білеты можна набыць у Беларусі

21 мая амерыканскі гурт *Aerosmith* выступіць у віленскай *Siemens Arena*, у межах тура *Global Warming Tour*. *Aerosmith* — адзін з найважнейшых гуртоў амерыканскага хард-року, з'явіўся ў самым пачатку 1970-х і з першых жа альбомаў прыдбаў вялізную колькасць аматараў. Спецыяльна для беларускіх прыхільнікаў арганізатары ладзяць продаж квіткоў на віленскі канцэрт гурту: цана ад 1 195 000 рублёў.

### Akute выдалі альбом, да якога няма чаго дадаць

«*Realnaść i sny*» складаецца з 11 трэкаў, два з якіх («Як на далоні» і «Марнатраўны сын») — каверы на *Ulis*. Канцэртная прэзентацыя новага альбома магілёўскага гурту ў Мінску прайшла 11 красавіка. Альбом можна спампаваць у інтэрнэце. Наступныя прэзентацыі пройдуць 20 красавіка ў магілёўскім клубе «Куба», 25 красавіка на гарадзенскім фэсце «Хавайся ў бульбу», 26 красавіка ў берасцейскай «Сферы» і 1 траўня ў маскоўскім клубе *ArteFAQ*.

### У Магілёве падчас суботніка разбурылі помнік архітэктуры

Падчас работ па добраўпарадкаванні раёна Падніколле разбураны культурны слой тэрыторыі і рэшткі старых будынкаў, заявіў старшыня абласнога савета Магілёўскага аддзялення Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір Краўчанка. Работнікі ЖКГ амаль разбурылі рэшткі падмурка і пямяшканні помніка архітэктуры XVIII стагоддзя, сказаў Краўчанка. Да месца разбуранага падмурка цяпер звозіцца смецце з сумежнай тэрыторыі. Ён сказаў, што ўсе гэтыя разбурэнні з'явіліся пасля праведзенага 29 сакавіка гарадскога суботніка.

### У Вільні пачынаюцца набажэнствы па-беларуску

У касцёле Святога Барталамея на Зарэччы (*Užupis*) пачынаюцца рэгулярныя беларускамоўныя набажэнствы. У будні можна наведаць святую імшу а 8.00, у нядзелю імша па-беларуску будзе а 12.00. Адрас касцёла — вуліца Зарэчная, 17а (Užupio g., 17a). Запрашаюцца ўсе ахвотныя з музычным слыхам у хор.

### У Пецярбургу ідуць беларуская культурна-асветніцкія сустрэчы

Ініцыятыва ў арганізацыі такіх курсаў у паўночнай сталіцы Расіі належала Клубу беларусаў Санкт-Пецярбурга. Першая сустрэча прайшла ў скляпенні касцёла Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гэта будуць не проста моўныя курсы, а культурна-асветніцкія сустрэчы. Мова будзе ўсяго толькі адным з блокаў. Першая сустрэча была прысвечана абмеркаванню песні, якая б магла стаць Гімнам сучаснай Беларусі. Паслухаўшы дзевяць варыянтаў, большасць схілілася да «Пагоні» Максіма Багдановіча. Сустрэчы адбываюцца па адрасе: вул. 1-я Чырвонаармейская, 11.

**ГК, ЮУ; «Еўрарадыё»**

# «Ад самых «маскавітых» я дабра не чакаю»

Да 80-х угодкаў з дня нараджэння Ігара Дзядкова. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

11 красавіка спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння расійскага крытыка і літаратуразнаўца Ігара Дзядкова, чалавека, які шмат увагі надаваў беларускай літаратуры, аўтара кнігі пра Васіля Быкава (другім выданнем выйшла ў 1990-м), карэспандэнта не аднаго нашага пісьменніка.

У 2000-м я змясціў у часопісе «Нёман» свой артыкул-успаміны пра Ігара Дзядкова. У тым артыкуле цікавасць Ігара Аляксандравіча да беларускай літаратуры я патлумачыў і генетыкай, бо крытык паходзіў з крывічоў-смалянаў. Генетыкай, пэўна, тлумачылася і тое, што творы беларусаў ён чытаў, калі яны да яго даходзілі, і ў арыгінале, без перакладу. Так было, напрыклад, з раманам Васіля Быкава «Знак бяды»: сваю рэцэнзію (дарэчы, самую першую) Ігар Дзядкоў напісаў на часопісную, палымянскую, публікацыю.

Пачаць гэты тэкст, мусіць, трэба з нашай першай сустрэчы, што адбылася ў красавіку 1983 года падчас навуковай канферэнцыі «Сучасныя праблемы ваеннай прозы», якую ладзілі Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР і Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Як і кожнае мерапрыемства такога роду, канферэнцыя праходзіла з дазволу ЦК КПБ. Накіроўваючы мяне на канферэнцыю, галоўны рэдактар «ЛіМа» Алесь Жук даручыў мне напісаць для тыднёвіка справаздачу з яе і дадаў, што тэкст справаздачы перад публікацыяй будуць чытаць у аддзеле культуры ЦК КПБ. Не выключана, што сам загадчык аддзела Іван Антановіч.

### Іван Антановіч і савецкі гуманізм

Доктар філасофскіх навук прафесар Антановіч быў ворагам «абстрактнага гуманізму». Ён быў за «сацыялістычны», а дакладней за савецкі гуманізм. Сутнасць жа савецкага гуманізму, калі коратка, заключалася ў любові да савецкіх людзей — будаўнікоў камунізму, да працоўных усяго свету, якія змагаюцца з уладай капіталу і каланіяльным панаваннем, а таксама ў нянавісці да ворагаў камунізму, эксплуататараў працоўных, каланізатараў ды іх памагатых.

«Падкаваны» чытач адразу ж убачыць роднасць паміж савецкім гуманізмам і нацызмам. Дастаткова савецкіх людзей памяняць на немцаў, будаўнікоў камунізму — на будаўнікоў III Райху і г.д.

Іван Антановіч, паводле сведчання Алеся Адамовіча, разважаў так: атамная вайна забярэ жыцці многіх мільёнаў людзей, але гэта не павінна нас бянтэжыць, бо больш важна, каб пасля гэтай



**Ігар Дзядкоў**

(1934, Смаленск — 1994, Масква) — расійскі літаратурны крытык. Доўгі час жыў у Кастраме, працаваў у газеце «Северная правда», ад 1987 быў палітычным аглядальнікам часопіса «Коммунист» (Масква). Аўтар кніг пра творчасць Васіля Быкава і Сяргея Залыгіна, пісаў пра творы Віктара Астаф'ева, Юрыя Трыфанава.

вайны засталіся савецкія людзі, якія будуць працягваць справу камуністычнага будаўніцтва.

З тае прычыны, што даклад на канферэнцыі мелася рабіць «абстрактны гуманіст» Алесь Адамовіч (што ні кажы, партызан, аўтар «ваенных» кніг і член-карэспандэнт), а выступіць меліся не менш «абстрактныя гуманісты» Васіль Быкаў, Лазар Лазараў, Юрый Каракін, Віктар Казько, якімі аддзел культуры не мог надта пакамандаваць, мая задача як газетчыка заключалася ў тым, каб не кідаць у крайнасці і зрабіць максімальна нейтральны тэкст. Той, хто будзе чытаць мае нататкі з канферэнцыі «Праўда вайны — супраць вайны» (ЛіМ, 6 траўня 1983 г.), пераканаецца, што мне гэта ўдалося. Асадка Івана Антановіча практычна не дакранулася да майго тэксту. А яшчэ заўважыць чытач, што ў тых нататках я неаднаразова цытаваў Ігара Дзядкова. Тэкст ягонага выступлення я папрасіў у крытыка адмыслова.

Калі да канца падыходзіў першы дзень канферэнцыі і старшыня абвясціў, што заўтра замест Барыса Сачанкі, як было прадугледжана праграмай, першы будзе выступаць Алесь Савіцкі, я сказаў Ігару Аляксандравічу:

— Не пазніцеся заўтра. У канцы выступлення Савіцкага вы паслухаеце пра сусветны сіянізм.

У дадатак я патлумачыў крытыку, што белетрыст Савіцкі ў свой час загадваў сектарам мастацкай літаратуры ў ЦК КПБ.

Сусветны сіянізм быў вінаваты перад Алесем Савіцкім за тое, што амаль перад самай канферэнцыяй крытык Таіса Грамадчанка надрукавала ў «ЛіМе» артыкул «Чалавек на вайне: Чытаючы раманы Алеся Савіцкага». Крытык адзначала адсутнасць у творах Савіцкага якраз гэтага «абстрактнага гуманізму».

На другі дзень канферэнцыі, у перапынку, Ігар Аляксандравіч спытаўся ў мяне, адкуль я ведаў, чым скончыць сваё выступленне Алесь Савіцкі. «Дык я ж тут жыву і збольшага ведаю, чаго ад каго чакаць», — быў мой адказ.

### Неафашысты каля «Мира»

Канферэнцыя скончылася 20 красавіка. Бадай, ні ў каго з прысутных у галаве не было думкі, што менавіта ў гэты дзень нарадзіўся Гітлер. Затое гэтую дату памятала група маладых брытагаловых менчукоў, якія пад вечар прыйшлі да кінтэатра «Мир», каб публічна ўшанаваць памяць фюрэра. (Назву кінатэатра падаю па-расійску, бо не ведаю, у якім значэнні ўжыта тут слова «мир».)

Пра тую акцыю тутэйшых фашыстаў назаўтра мне стала вядома ад нашага лімаўскага ўсяведа — загадчыка аддзела інфармацыі Алеся Марціновіча. Год праз дванаццаць, ужо ў лакашэнкаўскай Беларусі, я ледзь не страціў прытомнасць, калі ўбачыў на станцыі метро «Кастрычніцкая» апранутых і абутых у чорнае малойчыкаў, якія прывіталі адзін аднаго выкідам рук. А што казаць пра андропаўскі час? Алесева інфармацыя гучала непраўдападобна. Фашысты? У Менску? Гэта не ўкладвалася ў галаве. Але інфармацыю пацвердзілі іншыя людзі.

Пра тое «святкаванне» Гітлеравых угодкаў я напісаў Ігару Аляксандравічу. І атрымаў ад яго ліст. У лісце ёсць слова «потрясён», якое лепш перакласці не як «узрушаны», а як «ашаломлены». «Я быў ашаломлены, калі ўпершыню пра іх [зборышчы брытагаловых] пачуў, не паверыў; які Вы; цяпер даводзіцца верыць, што такое магчыма нават у Менску!..» З ліста вынікае, што зборышчы фашыстаў адбываліся не толькі ў Менску і што чуткі пра іх хадзілі ў грамадстве, даходзілі і да Кастрамы, дзе жыў у той час Ігар Дзядкоў.

Было б цікава пачытаць, які і што «органы» паведамлялі пра тыя зборышчы партыйнаму кіраўніцтву, свайму надаўняму шэфу Юрыю Андропаву, які ў канцы 1982-га стаў генеральным сакратаром ЦК КПСС.

### «Баляванне рускага духу»

Тое, што ў грамадстве адбываецца палярызацыя сілаў, што ў Расіі ў нейкай ступені аднаўляецца супрацьстаянне заходнікаў і славянафілаў, было несумненна. Хіба з той папраўкай, што «славянафілы» новага часу сталі называцца «почвеннікамі» — як адна з плыняў у славянафільстве XIX ст. (яе «бацькам» лічыцца Фёдар Дастаеўскі). Штабам новых «почвеннікаў» была рэдакцыя часопіса «Наш современник».

Нянавісць да Захаду, да каталіцызму не была нейкай навіной у культурным жыцці савецкай Расіі. Яна была іманентна ўласцівая пэўнай частцы расійскага «адукаванага грамадства» ва ўсе часы. Толькі ў савецкі перыяд яна на кароткі час набыла сацыяльна-класавае адценне: краіна «перáможнага пралетарыяту» супрацьстаіць брытанскаму (французскаму, нямецкаму, італьянскаму, польскаму і г.д.) імперыялізму. Але з часам зноў адбыўся пераварот гэтага супрацьстаяння на цывілізацыйна-рэлігійную плашчыню. Ігар Дзядкоў не змог не звярнуць увагу, напрыклад, на гістарычныя раманы Дзмітрыя Балашова, які ідэалізаваў ранніх маскоўскіх князёў, а галоўным ворагам Масквы лічыў Вялікае Княства Літоўскае. І вось у 1986-м яму ў кампаніі з Сяргеем Залыгіным і з «почвеннікамі» Васіліем Бяловым, Уладзімірам Крупіным ды іншымі даваялося асабіста пазнаёміцца з гэтым аўтарам. Пасля таго знаёмства Ігар Аляксандравіч пісаў мне: «...маё смаленскае паходжанне (? «голас крыві») замінала мне з лёгкай душой браць удзел у баляванні рускага духу, аддаваць перавагу Ардзе перад Літвою і г.д.».

Я не хацеў бы кінуць цень на ўсіх расійскіх «почвеннікаў», але з іх лагеру, акрамя варожасці да Захаду і каталіцызму, патыхала смуродам антысемітызму. Я быў проста ў шоку, калі чуў у Менску (ведама, у прыватнай гутарцы) «адкрыцці» літаратурнага крытыка, ясенізнаўцы Юрыя Прокушава. Ён вінаваціў жыдоў і ў смерці Ясеніна, і ў смерці Маякоўскага, і ў смерці Паўла Васільева... Не было толькі адказу на пытанне: а хто вінаваты ў смерці расійскіх пісьменнікаў з роду Якуба-Ізраіля?

### Партыйныя захапляліся Мюлерам

У Беларусі былі свае «почвеннікі» і «семіты», але пра іх я напішу ва ўспамінах пра Алеся Адамовіча. Тут жа хачу адзначыць, што ў партыйных інстанцыях і ў савецкім грамадстве новая хваля антысемітызму паднялася ў час Шасцідзённай вайны (1967). Гэта быў працяг сталінскай барацьбы з «бязроднымі касмапалітамі», «лекарамі-шкоднікамі», але шырмаю для антысемітызму стала барацьба з так званым сусветным сіянізмам. Некаторыя партапаратчыкі спрабавалі пераканаць мяне, што беды беларускай культуры ў канцы 1920-х — 1930-х трэба тлумачыць «засіллем» у КП(б)Б людзей пэўнай нацыянальнасці, але яны не маглі патлумачыць, чаму пад каток тэрору трапілі і прадстаўнікі гэтай нацыянальнасці.

Што праўда, я не чуў ад нашых партапаратчыкаў хоць нейкага апраўдання нямецкага нацызму. Не ведаю, як у парткабінетах зрэагавалі на вестку пра зборышча каля кінатэатра «Мир», але Ігар Дзядкоў вярнуўся да гэтай тэмы ў яшчэ адным лісце. І падышоў да яе з іншага боку. 22 чэрвеня (!) 1983 г. ён пісаў: «Днямі размаўляў з адным палітычным дзеячам абласнога маштабу. Размова павярнула выпадкова на «17 імгненняў вясны»...» Пераўру цытату. Думаю, і цяперашнім маладым вядома, што «17 імгненняў вясны» — тэлефільм пра савецкага разведчыка Максіма Максімавіча Ісаева, які пад прозвішчам Штырліц у чыне штурмбанфюрэра служыць у галоўным імперскім упраўленні бяспекі і здабывае для савецкага кіраўніцтва вельмі важную інфармацыю. Фільм глядзелі мільёны, вуліцы савецкіх гарадоў падчас паказу чарговай серыі пусцелі. У гэтым фільме нават не вельмі ўдумлівыя людзі маглі ўбачыць падабенства паміж бальшавіцкай і гітлераўскай партыямі, але, з другога боку, людзей удумлівых бянтэжыла «ачалавечванне» нацыстаў і эстэтызацыя нацызму. Дык вось, калі гаворка зайшла пра фільм «17 імгненняў вясны», Ігар Дзядкоў пачуў ад палітычнага дзеяча абласнога маштабу, што шэф гестапа Мюлер і яго кампаньёны былі «разумныя людзі», «цудоўныя арганізатары», нават з «нейкім станоўчым пачаткам».

Відавочна, што шукаючы станоўчае ў нацызме, партапаратчыкі і людзі з сілавых структураў СССР вялі такія размовы перш за ўсё паміж сабой. І, як відаць, не саромеліся іншы раз выходзіць са сваімі высновамі «на людзі». Пазнейшыя падзеі (узяць бы хоць знакамітае інтэрв'ю Аляксандра Лукашэнкі нямецкай газеце «Handelsblatt») паказалі, як глыбока гэтыя высновы пранiклі ў асяроддзе савецкага актыву. Гэтая з'ява пазней атрымае назоў камуна-фашызму.

### Карані камуна-фашызму

Камуна-фашызм вынік з ідэйнага і практычнага крызісу бальшавізму. Ужо да сярэдзіны 1970-х стала ясна, што план пабудовы камунізму ляснуўся, а выпрацаваць нейкія новыя ідэі ці «скаціцца» да сацыял-дэмакратызму КПСС з прычыны сваёй таталітарнай сутнасці не магла, і многім яе дзеячам нічога не заставалася, як звярнуцца... нават не да нацыяналізму, а да ідэі выключнасці расійскага народа. Зноў жа, у гэтым таксама не было нічога новага, бо яшчэ ў 1945-м Сталін абвясціў расійцаў вядучай нацыяй Савецкага Саюза. Калі быць карэктным, дык адраджэнне расійскага шавінізму пачалося нават не ў 1945-м, а раней — калі бальшавікі пачалі звяртацца да вобразаў расійскіх цароў і военачальнікаў, калі гэтыя вобразы пачалі папулярызаваць на сцэнах, у кіно і белетрыстыцы («класічны», ленінскі, бальшавізм такога не дапускаў).

Ад камуна-фашысцкіх высноваў пра тое, што нацысты — «разумныя людзі», «цудоўныя арганізатары», нават з «нейкім станоўчым пачаткам» ляжыць просты шлях да таго, што напісаў нядаўна расійскі палітолаг Андранік Міграмян. Ён прапанаваў нам адрозніваць Гітлера да 1 верасня 1939 г. і Гітлера пасля пачатку Другой сусветнай вайны. Быццам у той, даваеннай, Германіі не было нацызму, тэрору, быццам з тае Германіі не было масавай эміграцыі...

Тут важна адзначыць, што сябар беларускай культуры Ігар Дзядкоў не толькі адчуваў, але і разумеў усю небяспеку нацызму для Расіі яшчэ на самым пачатку гарбачоўскай перабудовы. Праз два гады пасля менскай навуковай канферэнцыі «Сучасныя праблемы ваеннай прозы», 19 красавіка 1985 г., ён пісаў мне: «У Маскве высвятляюць, хто за каго «маскавіцейшы» (не ведаю, як утварыць адпаведную форму ад слова «рускі»). З майго гледзішча, гэта малаплённы занятак. І ад самых «маскавітых» (сваёй гардыняй, пыхай і да т.п.) я дабра не чакаю. І ніхто ніколі яго не чакаў — ва ўсе часы».

**Анатоль Сідарэвіч**

Нарадзіўся ў 1948 у вёсцы Задуб'е Ганцавіцкага раёна. Даследнік нацыянальнага руху XX стагоддзя, адзін з адраджальнікаў беларускай сацыял-дэмакратыі.

**Мікіта Волкаў.** Апавяданне.

# Надзея, вера і любоў

*От юності моея мнозі борют мя страсті*

**1.**

У той злашчасны ранак, калі ў мяне ўпершыню пайшла кроў, а для мужчын, як вядома, гэта не надта фізіялагічна, я зразумеў, што надышла і мая чарга. Кон быў зусім не міласэрны да мужчын майго роду. Вось і цяпер, напіўшыся крыві старэйшага брата, фатум шчыльна ўзяўся за мяне.

Чытач мо не адразу здагадаўся, пра што я вяду гаворку, дык я патлумачу. Усе мужыкі маёй сям'і, дасягнуўшы 30-гадовага веку, памiралі ад раку простай кішкі. Старыя цёткі, гэтая паршывая, зненавіджаная мной супольнасць феміністак, якія атачалі мяне з самага нараджэння, лічылі, што ўсяму віной даўні праклён.

*Казалі, нібыта два стагоддзі таму гаротная помслівая маці сыпанула з замоваю гарачых галавешак на след майго далёкага пра...прадзеда Амелькі, бо ён кінуў яе цяжарную дачку. Падманутая, намучыўшыся ў марных спадзяваннях, што Амелька яе возьме, нейкім шкляным аскалёпкам узрэзала сабе жылы. «Заякочаш ты, кныр чортаў, ад болю, заенчыш у пакутах», — кляла ўголас старая, а Амелька толькі смяяўся. Ці мог вялізны, плячысты, жадны да жыцця і жанчын асілак верыць у чары? На вёсцы ён быў самы моцны, сплаўляў бярвенне на плытах, і дужасці яму ні на што не бракавала. Зверына яго ў лесе баялася. Здаралася, капане адной нагой звера ў пастцы на паляванні — і скончыцца небарака. Але як мінула Амельку трыццаць, дык і сілы ягоныя на спад пайшлі. Высах і сканаў. Як зацурчэла ў яго кроў з таго самага месца, як заструменілася — нічым не спыніць. І цявінне палыну з чартапалохам прыкладалі яму туды, і ваду лячылі — нішто не магло даць рады. Скеміў бядак, што ўсяму віной правіна ягоная, і наважыўся ісці да маці-чараўніцы. Як угледзела старая яго на парозе, дык выгнала прэч, услед дадаўшы: «Памрэш ты, злыдзень, праз сорак дзён, і доля такая ў вашай сям'і па сякеры пойдзе. За кроў маёй дачушкі расплачвацца ўсе жаніхайлы будуць».*

Не надта я верыў гэтай ахінеі. Зашмат чытаў і бачыў за няпоўныя два гады навучання ў медычным універсітэце. Ведаў пэўна: прычынаю злой пошасці была мутацыя ў адным з генаў 18-й храмасомы, які абмяжоўвае пухлінны рост. 30 гадоў — гарманальна актыўны век, таму многія пухліны і растуць. Нічога дзіўнага.



**Мікіта Волкаў**

Нарадзіўся ў Барысаве. Студэнт Беларускага дзяржаўнага медычнага ўніверсітэта. Наведвае Школу маладога літаратара.

**2.**

У прасторным цагляным доме на два паверхі я застаўся адзін. Маці, братава ўдава і дзядзькава ўдава рана паехалі на лецішча. На іх думку, студэнт морыцца ад вучобы, і яму трэба высыпацца. Таму не сталі мяне будзіць (маразм жаночага выхавання) і незаўважна сышлі з хаты. Прачнуўшыся, я доўга качаўся ў ложку. Уваччу стаялі кропельніцы, ін'екцыі розныя ды непатрэбныя таблеткі і дактары. Гэта мяне чакала ўжо ў хуткім часе. Дзіўная рэч: табе нічога не баліць, але ты ведаеш, што памрэш. Паласа крыві на «рэштках метабалізму» скарала і не давала ўстаць. Закрываючыся коўдраю, я змушаў сябе заснуць, хоць і не ўдавалася. З дальняга, кутняга століка пад абразамі трывожна пазіралі на мяне партрэты нябожчыкаў. Тату я не памятаў: рак забраў яго праз год пасля майго нараджэння. Каля партрэта бацькі, трохі лявей і ззаду, стаяў дзедаў партрэт. Ускудлачаная рудая галава з рабацiннем на твары, рызыкоўная пастава (стаяў на парэнчы моста аднанож з выцягнутымі ў бакі рукамі) рабілі ўражанне наіўна-гарэзлівага бесклапотнага юнака. Найбольшым партрэтам, які нават захінаў іншыя, быў партрэт майго брата. Заўчора па ім адпраўлялі гадавіну. Пошасць не мінала нікога. Праўда, кожны, ведаючы пра свой незайздросны лёс, паспяваў ажаніцца. Па смерці мужоў жанчын ужо ніхто не браў, бо баяліся падобнай долі, таму яны заставаліся жыць у нашай хаце.

**3.**

Спакваля бралася на змярканне. За цэлы дзень я так нічога і не зрабіў, праваляўся ў ложку, нават не ўзяўся есці. Знадворная цемень ахінала прастор, хавала пачварствы горада і заклікала на волю ўсіх заганных і пракажоных. Я пайшоў з гэтай выклятай чортавай хаты, пакінуўшы яе парожняй. Адамкнуў гараж і прывітаў старэнькі зялёны «Жыгуль», які купіў яшчэ мой дзед у 75-м і які, дзякуючы рупнасці брата-зваршчыка, не заржавеў і не разваліўся. Я запраўіў яго, заліў аліву, праверыў радыятарную вадкасць, паспрабаваў завесці. Праз некалькі хвілін я ўжо ехаў самотным, забытым Богам горадам. Начное ваджэнне дзейнічала супакаяльна, змушала засяроджвацца і пачувацца абароненым. Рокат рухавіка неяк прытупляў душэўны боль і перажыванні. Паездка не мела мэты, вось ужо пятнаццаць хвілін я кружляў вакол старасвецкай плошчы з касцёлам, ратушай і царквой. Урэшце надакучыла, і я звярнуў улева, на не вельмі язджалую дарогу, якая хутчэй за ўсе астатнія вяла з горада. Паабапал яе стаялі аднапавярховыя мураваныя камяніцы XIX стагоддзя — местачковы кірмаш, дзе ўдзень прадавалі гародніну, курэй і свіней. Праз кіламетры два рынак скончыўся, дарога рабіла ўвілісты круты паварот на шашу. Часам недасведчаныя маладзёны, ладзячы тут аўтаралі, з'язджалі з адхону ў плыткую рэчку і забіваліся. Едучы гэтаю дарогай, я ўбачыў белую пляму акурат пасярод яе. Я сцішыў хуткасць, выключыў дальняе святло фараў і пад'ехаў бліжэй. Пасярод дарогі стаяла дзяўчына. Яе постаць была ўвасабленнем той сапраўднай прыроднай прыгажосці, якая часцяком прыходзіць начамі да 14—15 гадовых падлеткаў. Доўгія хвалістыя чорныя валасы хавалі плечы, пад паркалёвай сукенкай знаць былі смочкі грудзей, талія, што перашчыкнуць, пераходзіла ў шырокія пругкія клубы.

— Абрыдла жыць? — злосна выгукнуў я.

— Не табе вырашаць, боўдзіла. Што стаў, каціся далей, — хрыпата выстрэльвала дзяўчына. Нейкая падазроная штучнасць адчувалася ў яе голасе, быццам гэта ёй надыктоўвалі.

Мяне гэта толькі распальвала і ўзрушала. Што мне было губляць? Ейны пракураны галасок, а таксама спецыфічны, уласцівы толькі курцам, колер скуры выдавалі прафесію начной феі.

— Ці, можа, ты па дзелу спыніўся? — з юрлівай усмешкай працягвала яна. — Але, мяркуючы па «Жыгулю», дзялоў у цябе ніякіх быць не можа.

— Давай, сядай у машыну, а там разбяромся, — адрэзаў я.

Яна чамусьці адразу села.

— Толькі ты ... гэта, ужо пасля забі мяне і дзесьці закапай. Так што можаш не плаціць.

Яна мяне агаломшыла. У ейным голасе, які кардынальна змяніўся ў машыне, стаў кволым і лядашчым, было столькі роспачы, што мне стала яе шкада. Узнікла нейкае пачуццё, быццам я яе ведаю.Даўно ведаю.

— А ты Юрасём завешся. Я цябе пазнала адразу. Я ж на першым курсе вучуся ў медзе. З раёна прыехала, не было грошай, і мы з дзяўчатамі часта стаялі тут, на выездзе. А заўчора я даведалася, што ВІЧ-інфікаваная.

Раптам машына як бы некуды правалілася. Гэта была яміна, якую я не заўважыў, але выбрацца з яе шанцаў ужо не было. Я адкінуў крэслы назад, аберуч узяў дзяўчыну за талію і пасадзіў да сябе на калені. Абхапіўшы маю шыю, яна закрыла мне твар валасамі. Нашы вусны судакрануліся, а ў вачах з'явіўся цьмяны агеньчык надзеі. Я вадзіў далонёй па паясніцы і пяшчотна спускаўся да клубоў і ніжэй. Жарсць прыходзіць незаўважна, але калі яна авалодвае чалавекам, спыніць яе немагчыма. Нам абаім было па васямнаццаць, і мы вельмі хацелі жыць...

**4.**

Пасля гарачых і салодкіх хвілін здарыўся цуд. Ці то ад мілосных здрыгаў і калыханняў «Жыгуля», ці проста ад шанцавання, але нам удалося выкараскацца з пясчанага раўчука. Дзяўчына ўнікала сустрэчы позіркаў, быццам тая, на дарозе, і гэта сарамлівая дзяўчынка былі розныя.

— Як зваць цябе? Я і папытаць забыўся, — схамянуўшыся, прамовіў я.

— Вера. Завязі мяне дамоў, я тут непадалёк жыву, у Вярховіне, — ціха прасіла яна.

Мы даехалі да ейнай вёскі. Паволі світала. Я пацалаваў яе на развітанне.

— Ты... тэлефончык мне б пакінула, — я рэзка сказаў ёй услед. Вера, стоячы перад весніцамі, азірнулася.

— Вядома, — ціха адказала яна.

**5.**

Барадаты каланаскапіст, скончыўшы працэдуру, са службоваз'едлівай усмешкай пазіраў на мяне. Я, працяты мітрэнгаю, моўчкі чакаў выраку. Доктар, не спяшаючыся, паклаў эндаскоп у дэзраствор, паглядзеў у фортку, азірнуўся і запытаў:

— Ты выпадкам грузчыкам не робіш? Ці, можа, са штангай дурэеш?

— Ну так. Часам штангу цягаю.

— Дык пакінь. Тут такая справа далікатная: гемарой у цябе.

Шчасце палілося цераз край. Мне хацелася надзьмуцца, бы паветраны шар, і ўзляцець. Што такое гемарой у параўнанні з ракам? Бы насмарк і сухоты. Раку не было, а значыць, можна было жыць і, адпаведна, кахаць.

— Так што супазіторыі папрымяняеш тыдзень. І запомні: ніякіх фізічных перагрузак.

— Дзякуй. Можна ўжо ісці? — шчасліва запытаў я.

— І яшчэ, тут цябе папрасілі перадаць аналіз на ВІЧ. Ты не турбуйся, памылкі часта здараюцца. Так што, будзе час, сходзіш і здасі аналізы.

Я знаў — памылкі быць не магло. Вера — ВІЧ-станоўчая, а я, верачы ў тое, што хворы на рак, не засцерагаўся. Ад ВІЧ не паміраюць адразу, могуць мінуць дзесяцігоддзі, пакуль разаўецца падступнавераломны СНІД. Дый, паводле сямейнага падання, мужыкі майго роду паміраюць у трыццаць. Сёння мне васямнаццаць, а значыць, дванаццаць гадоў шчасця — мае законныя.



## ФУТБОЛ

### «Дынама» — «Мінск»

**18–19 красавіка** пройдуць матчы 4-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе. У пятніцу адбудзецца толькі адна гульня. У Жодзіне мясцовае «Тарпеда» прыме брэсцкае «Дынама». Астатнія пяць сустрэч пройдуць 19 красавіка, у тым ліку цэнтральны матч тура паміж мінскім «Дынама» і «Мінскам». Таксама ў гэты дзень гуляюць: БАТЭ (Барысаў) — «Белшына» (Бабруйск), «Слуцк» — «Гомель», «Нафтан» (Наваполацк) — «Шахцёр» (Салігорск), «Дняпро» (Магілёў) — «Нёман» (Гродна).

## КАНЦЭРТЫ

### Akute і Паліна Рэспубліка ў Магілёве

**20 красавіка ў клубе «Куба» (Першамайская, 29).** Білеты — 70—90 тысяч рублёў.

### Naka

**20 красавіка а 20-й у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** — электрычны канцэрт гурту Naka.

### «Адыс-Абеба»

**21 красавіка а 19-й у паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** выступае рэгі-гурт «Адыс-Абеба».

### «Паэты жывуць у песнях»

**20 красавіка ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — музычна-паэтычны вечар «Паэты жывуць у песнях». Выступаюць гурты «Нельга забыць», «Галая манашка», «Сон-трава», «Зоркі забыліззяць» і Сяргей Башлыкевіч. Пачатак а 19-й.




## ВЫСТАВЫ

### 10 стагоддзяў беларускага мастацтва

**У Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20)** дзейнічае выстава «10 стагоддзяў беларускага мастацтва». Гэта адзін з самых маштабных праектаў апошніх гадоў: на ім прадстаўлена каля 500 экспанатаў амаль з усіх музеяў Беларусі, карціны Шагала, Ваньковіча і Суціна з уласнай калекцыі «Белгазпрамбанка». Мэта выставы — паказаць мастацтва Беларусі як жывы і неперарыўны працэс, інтэграваны ў сусветную мастацкую прастору.







### І рай, і боль на Песеннай зямлі

У Нацыянальным гістарычным музеі да 20 красавіка працуе выстава «І рай і боль на Песеннай зямлі». Упершыню прэзентуецца вялікі комплекс графічных твораў беларускіх мастакоў 1920—1930 гг. этнаграфічнай тэматыкі, якія быў сфарміраваны ў зборы музея ў тыя часы.

### «I wanna be contemporary artist»

**У галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А)** экспануецца фотапраект Аляксандра Веледзімовіча «I wanna be contemporary artist». Выстава — гэта своеасаблівы фотадзённік, у якім расказваецца гісторыя аднаго падарожжа да самога сябе, разважанне пра тое, як заставацца сучасным творцам. Кожная выява, як і павінна быць у дзённіку, занадта інтымная — у кожнай з іх і адбіткі часу, непрадказальнасць лёсу, аскепкі прадметнага свету, якія выбудоўваюць сістэму каардынат, асабістую для кожнага.

### «Intro & Outro»

**Галерэя TUT.BY (Веры Харужай, 1А, 6-ы паверх)** прэзентуе праект Настассі Кулажэнкі «Intro & Outro». У ім гарманічна спалучыліся музыка, каліграфія, графічныя і жывапісныя прыёмы, камп'ютарная графіка і фатаграфія. «Intro&Outro» — спроба аўтара аб'яднаць у візуальнай форме музычныя вобразы, створаныя аўтарамі і кампазітарамі, блізкімі па духу і сэнсах, інтанацыі і рытме.

## ТЭАТРЫ

### 17 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры
**Купалаўскі** — Офіс

### 18 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Нью! Хэпі Валентайн!
**Купалаўскі** — Людзі на балоце
**Оперы і балета** — Рамэа і Джульета
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

### 19 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Мыйдадзір
**Оперы і балета** — Рамэа і Джульета

### 20 красавіка

**Лялек** — Чароўная лямпа Аладзіна
**Купалаўскі** — Вечар

### 21 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Эмігранты

### 22 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Оперы і балета** — Тоска
**Юнага гледача** — Ліса і вінаград

### 23 красавіка

**Купалаўскі** — Местачковае кабарэ
**Оперы і балета** — Дон Кіхот
**Юнага гледача** — Мой бедны Марат

## КІНО

### Альтруізм з кулакамі

Дывергент
Фантастыка, баявік
Рэжысёр: Ніл Бергер
У ролях: Шэйлін Вудлі, Тэа Джэймс, Кейт Уінслет, Майлз Тэлер, Джэй Кортні
ЗША, 143 хв

Пасля вялікай вайны — каб пазбегнуць войнаў у будучыні, — распрацаваная жорсткая структура грамадства. Яно падзеленае на пяць фракцый: Альтруізм, Праўдзівасць, Таварыскасць, Эрудыцыя і Адвага. Кожны падлетак, які дасягнуў 16 гадоў, павінен прайсці тэст на схільнасць да адной з каштоўнасцяў, а на Цырымоніі выбраць адпаведную (або іншую) фракцыю свядома. Беатрыс Праяр, выхаваная ў Альтруізме, хоча памяняць фракцыю, але вынікі тэста паказваюць, што яна дывергент: не толькі смелая, а яшчэ і схільная карыстацца рознабаковымі ведамі і дапамагаць людзям. Дывергенты для такога ладу грамадства вельмі небяспечныя, і, абраўшы Адвагу, Трыс вымушаная змагацца за сваё жыццё.

Экранізацыя антыўтопіі Веранікі Рот ахоплівае падзеі першай часткі трылогіі. Гэта дазваляе спадзявацца, што неўзабаве гледачы змогуць убачыць працяг фантастычнай сагі пра падлеткаў. Рэжысёр Ніл Бергер («Вобласці цемры», «Ілюзіяніст»), таленавіты пастаноўшчык загадкавых трылераў, здолеў надаць кнізе другое жыццё. Яго героі выглядаюць больш жывымі і яркімі, а ідовішчны экшн перамяжоўваецца лірычнымі і атмасфернымі кадрамі.

**Настасся Уласава**



# Тэлевядучы Алесь Залеўскі: «Мару зрабіць інтэрв'ю з Лукашэнкам»

Гутарка пра людскія справы, упартасць у дасягненні мэтаў, беларускае тэлебачанне і пра тое, што сапраўдная Беларусь знаходзіцца па-за межамі Мінскай кальцавой.



**Алесь Залеўскі**

журналіст, ад 2007 года працуе тэлевядучым на незалежным канале «Белсат», меў шэраг аўтарскіх перадач, апошняя з іх — «Людскія справы». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў вёсцы Абухава пад Горадняй.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Колькі ты працуеш на «Белсаце» і як увогуле звязаў з ім сваё жыццё?**

**Алесь Залеўскі:** З таго моманту, калі тэлеканала яшчэ не было ў эфіры, гэта прыкладна з 2007 года. Спачатку мой сябар прапанаваў паехаць туды на кастынг, але я быў так заняты, што не змог. Я ўсё роўна ведаў, што буду працаваць на «Белсаце».

**«НН»: Скажы, калі ласка, а чаму на «Белсаце» адны гарадзенцы? Гэта нейкая гарадзенская «мафія»?**

**АЗ:** Калі адкінуць убок «гарадзенскую змову», то ўсё проста. Была тут моцная «Школа маладога журналіста», якая дала шмат добрых кадраў. Да таго ж у Гародні заўсёды былі цесныя кантакты з Польшчай. Тут ты звальваеш ці ў Варшаву, ці ў Мінск. Ну, і ў самой Рымашэўскай (дырэктарка «Белсату») большая частка знаёмых і сяброў, на якіх можна пакласціся і з якімі можна нешта рабіць, з Горадні.

**«НН»: Наколькі мне вядома, твая матуля працавала ў калгасе «Шлях камунізму», а ты з татам часта ездзіў у горад прадаваць бульбу. Ты рос вясковым хлопцам, гэта неяк паўплывала на цябе?**

**АЗ:** Першы мой досвед публічных выступаў — гэта продаж бульбы. Мне гэта дакладна дапамагае знаходзіць супольную мову з людзьмі вясковымі. Спадзяюся, хуткім часам атрымаецца зарабіць якую капейку і набыць дамок у вёсцы, бо вельмі мяне туды цягне.

**«НН»: Цягне да зямлі?**

**АЗ:** Натуральна. Асабліва, калі вясна, я проста не магу быць у горадзе. Хочацца адчуваць пах зямлі пасля доўгай зімы. Я ж таму і з'ехаў з Варшавы, бо там усё вельмі цывілізавана — пластык, шкло паўсюль. А тут побач бацькі, родная вёска, магчымасць набыць дамок. І я хачу, каб мае дзеці пабачылі ўсё тое, што пабачыў я: прыроду беларускую, азёры, размовы з вясковымі бабулямі і дзядулямі, рыбалку, грыбы. Толькі ў Мінску ёсць кавалачкі псеўдаеўрапейскай культуры, а ў іншых месцах — зямля.

**«НН»: Калі ты з'ехаў працаваць на «Белсат» у Варшаву, наколькі было складана адаптавацца да варшаўскага жыцця?**

**АЗ:** Нягледзячы на тое, што я з вёскі, мае бацькі былі вельмі заможныя, бо шмат працавалі. Яны заўсёды спрыяльна ставіліся да маіх інтарэсаў і прагі да ведаў. У нас, пэўна, у адных з першых на вёсцы з'явіўся інтэрнэт ды камп'ютар. Бацькі нават спрыяльна ставіліся да таго, што я прапускаў школу, а замест яе ездзіў у «Школу маладога журналіста», якая ладзілася за 20 км ад вёскі. Проста ведаў, што мяне чакае, тым больш што сам меў вельмі актыўнае жыццё. Таму асаблівых складанасцяў па адаптаванні не было.

**«НН»: Як часта ў цябе эфіры?**

**АЗ:** Раней былі ледзь не кожны дзень. Але цяпер я зацікаўлены ў больш доўгатэрміновых праектах, якія патрабуюць грунтоўнай падрыхтоўкі, як «Людскія справы». Мне надакучыла працаваць з заезджанымі палітыкамі ды аднымі і тымі ж экспертамі і асобамі. Нашмат карысней дапамагаць і рабіць матэрыялы пра звычайных людзей з іх праблемамі і хваляваннямі.

## Толькі ў Мінску ёсць кавалачкі псеўдаеўрапейскай культуры, а ў іншых месцах — зямля

**«НН»: Алесь, ты калісьці займаўся і палітыкай, і аналітыкай. Чаму сышоў з гэтай сферы?**

**АЗ:** Бо сэнсу ў гэтым няма, у нас нічога не змяняецца і адсутнічае любое развіццё. А мне неабходна рухацца.Таму я прыйшоў да высновы, што варта нешта рабіць праз простых людзей і ўладу на месцах, якія знаходзяцца за межамі Мінска. Сітуацыя ў Мінску не паказвае агульнай сітуацыі ў краіне. Бо тут ёсць толькі ўлада Лукашэнкі, бізнэсу — і ўсё. А сапраўдная ўлада як інстытут дзейнічае па-за кальцавой дарогай.

**«НН»: Летась ты меў сваю перадачу «Рэпартаж з Залеўскім». Тваё прозвішча ўжо стала брэндам? Цябе пазнаюць?**

**АЗ:** Здараецца, што і пазнаюць. Але больш ведаюць і пазнаюць «Белсат». Мая задача і мэта — сфармаваць імідж чалавека, які мае кантакт са звычайнымі людзьмі, умее іх слухаць і чуць іх праблемы. Калі нехта думае, што схадзіць на нейкае мерапрыемства і пачасаць языкамі будзе дастаткова, то памыляецца. Людзям ад вас ні холадна, ні горача.

**«НН»: Падчас тваіх вандровак у межах «Людскіх спраў» ці заўважаў, які настрой пануе ў галовах людзей?**

**АЗ:** Прызнацца, я не сустрэў яшчэ ніводнага лукашэнкаўца. Адметнасць беларуса ў тым, што калі ты яму задаеш пытанне, то ён не адкажа так, як ён думае, ён адкажа тое, што ты хочаш пачуць.Таму ўсе гэтыя сацыялагічныя апытанні даволі адносныя.

**«НН»: А як людзі да цябе ставяцца?**

**АЗ:** Не было ніводнага разу, каб мяне не пусцілі ў хату. Бо я, як журналіст, у больш выйграшным стане, чым хтосьці іншы. Я магу сказаць, што у нас з вамі адны мэты — расказаць пра вашыя праблемы і, магчыма, іх вырашыць. Палітыкі так сказаць не могуць.

**«НН»: Адкуль у цябе такія камунікатыўныя здольнасці?**

**АЗ:** Напэўна, генетыка. Дый я заўважыў, што гарадзенцы вельмі адкрытыя людзі. У дадатак мне трэба было прабівацца да гарадскіх, перамагчы свой вясковы комплекс.

**«НН»: Ён у цябе сапраўды быў?**

**АЗ:** На першым этапе комплекс быў вельмі моцным. Нават калі я скончыў «Школу маладога журналіста» і быў выпуск, сярод 15 чалавек выпускнікоў я адчуваў, што недзе трэці з канца паводле таленту. Яны былі лепшыя ва ўсім. Адзінае, што было ў ва мне — гэта ўпартасць. Праз гэтую ўпартасць і перамогі я падмацаваў сваё эга. Праз падмацаванне эга ты становішся больш адкрытым.

**«НН»: Ты ведаеш, што цябе лічаць даволі самаўпэўненым чалавекам?**

**АЗ:** Усё можа быць. Але я проста звыкся дабівацца свайго і біцца да апошняга, калі мне нешта трэба. Але я заўсёды гатовы саступіць. Так было на тых першых курсах «Мовы ці кавы», яшчэ да падзелу. Кібальчыч выкарыстала мяне як ледакол, яна ж вялікая махінатарка. Але яна малайчына. Я сыграў ролю ледакола, які павінен быў прыйсці туды, каб адбыўся раскол. Гэты раскол быў немінучы, бо Глеб Лабадзенка з Алесяй Літвіноўскай проста манапалізавалі суполку. Я як пачуў, якія інтрыгі там пляліся супраць Кібальчыч, дык проста за галаву схапіўся. Яны аддаліся маральнаму пачварству дзеля ўласных амбіцый. Але навошта? У Беларусі месца для рэалізацыі хапае ўсім.

**«НН»: Калісьці ты займаўся баямі без правіл, працягваеш?**

**АЗ:** Цяпер не займаюся. А займаўся, бо гэта лепш за розныя трэнажоры. Да таго ж псіхалагічна карысна, каб не баяцца стаяць твар у твар з чалавекам, які хоча цябе ўдарыць. Гэта надае ўпэўненасці.

**«НН»: Цытую цябе: «Я абсалютна перакананы, што буду жыць на радзіме. Планую не толькі прафесійна вярнуцца ў Беларусь, але і стварыць тут сям'ю. Я не ўяўляю сябе ў ролі эмігранта». Але кажуць, што ты маеш іпатэку ў Варшаве. То бок тваё знаходжанне тут часовае?**

**АЗ:** Гэта чыстай вады інвестыцыя. Месца добрае, хутка там будзе метро, таму будзем здаваць. Ці вярнуся туды, я пакуль не ведаю. Але я дакладна ведаў, што трэба было вярнуцца ў Беларусь і паспрабаваць уладкаваць сваё жыццё тут.

**«НН»: Твая жонка-ўкраінка прыехала з табой сюды, наколькі ёй было лёгка тут адаптавацца?**

**АЗ:** Яна была ўжо падрыхтаваная да беларускіх рэалій яшчэ падчас выбараў у 2010. Але пры гэтым тут безліч плюсаў, і мы разам з ёй прыйшлі да разумення гармоніі, якая нас тут чакае. У Беларусі цыбуля, ад якой плачаш, морква, якая пахне морквай, і прырода, якая сапраўды захапляе. І тут няма ілюзіі выбару, усё ты павінен ствараць сам, і гэта бязмерна цікава.

**«НН»: Ці абмяркоўваеце з жонкай падзеі ва Украіне?**

**АЗ:** Мы пра гэта не размаўляем. Уяві, у цябе памірае вельмі блізкі чалавек. І што ты ўвесь час будзеш абмяркоўваць гэта? Табе будзе хацецца псіхалагічна адысці.

**«НН»: А што тычыцца мовы камунікацыі ў сям'і?**

**АЗ:** Я размаўляю па-беларуску, яна па-ўкраінску. Ніколі не было дыскамфорту. А дзетак, думаю, будзем выхоўваць у білінгвізме.

**«НН»: Алесь, вось скажы, калі б нешта здарылася ў краіне і цябе запрасілі працаваць на АНТ, ты б пагадзіўся?**

**АЗ:** Я думаў некалькі разоў над гэтым пытаннем. Пытанне цікавае, і не маю на яго адназначнага адказу. Ведаю дакладна, што не пераступіў бы праз свае перакананні. Але трэба разумець, што ўсе мы беларусы, усе мы людзі. Трэба супрацоўнічаць і працаваць з тым, што ёсць.

**«НН»: Галоўнае, каб на карысць Радзіме?**

**АЗ:** Канечне. Мяне проста бесяць тыя, хто кажа, што сэнсу ад нашай працы няма, нас ўсё роўна не чытаюць ці не глядзяць. Дык навошта ўвогуле нешта рабіць, калі няма веры ў тое, што гэта будзе карысна? Дык ляжы на канапе і не псуй настрой іншым.

**«НН»: Калі адкінуць ідэйнасць, хто вышэйшы прафесійна: «Белсат», БТ, АНТ?**

**АЗ:** Мы лепшыя за БТ, але у нечым не дацягваем да АНТ. Бо мы там, а яны непасрэдна тут, яны маюць тут студыю, яны маюць прасцейшы доступ да кадраў.

**«НН»: Ты даўно ў журналістыцы, гутарыў, пэўна, з сотняй людзей. А з кім больш за ўсё марыш пагутарыць?**

**АЗ:** Я думаю, кожны журналіст марыць зрабіць інтэрв'ю з Лукашэнкам, у тым ліку і я.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**11 красавіка ў Варшаве прайшоў канцэрт беларускага гурту «Ляпіс Трубяцкой», на які сабраліся беларусы Польшчы, а таксама даехалі нашы ўкраінскія сябры. На канцэрце было да 5 тысяч чалавек.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Вербніца — гэта свята ў памяць уваходу Ісуса Хрыста ў Іерусалім. Напярэдадні Ісус здзейсніў цуд уваскрасення Лазара. Вестка шырока разнеслася, і багата народу вітала яго, як цара, пальмавымі галінкамі. У нашых шыротах пальму замянілі вярбой. У нядзелю — Вялікдзень.**



**Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч разам са сваімі намеснікамі браў удзел у суботніку на будаўнічай пляцоўцы кінастудыі «Беларусьфільм».**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Мастак Гэнік Лойка спрабаваў засудзіць КДБ за мову. Сп. Лойка падаў пазоў супраць Камітэта дзяржбяспекі, бо супрацоўнік КДБ Сяргей Кайдуноў, да якога Лойка прыйшоў на прыём, не размаўляў па-беларуску. Мастак патрабаваў звальнення супрацоўніка, аднак суд не задаволіў патрабаванне.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Праблема не ў тым, што Расія — краіна-бензакалонка. Праблема ў тым, што Пуцін закурыў на гэтай бензакалонцы.

* * *

Пуцін заявіў: калі яму не дадуць Нобелеўскую прэмію міру, — атрады самаабароны пры падтрымцы ВМФ і ВПС могуць з'явіцца ў Нарвегіі і Швецыі.

* * *

Бацюшка пытаецца ў прыхаджаніна:

— Ці молішся перад ежай, сын мой?

— Не, бацюшка. У мяне жонка добра гатуе...

* * *

Вясна! Так хочацца закахацца... але муж супраць.

* * *

Ну і калектыў! Адзін прыкідваецца разумным, каб больш плацілі, а другі — дурнем, каб менш працаваць.

* * *

– Які прагрэс у вашай працы?

– Усё зроблена ў нашых найлепшых традыцыях.

– То бок?

– Нічога не зроблена.

* * *

Толькі той, хто выносіў старую мэблю, ведае, што такое «цяжкая спадчына савецкіх часоў».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Докшыцы.** Ізноў вайна з беларускім календаром. Зайшоў у хаўрусную краму і запытаўся календароў, падалі два. Кажу: чаму ж вы лепшы хаваеце? Як бы шкада, каб не куплялі. Тут жа пры мне купілі, убачыўшы каляндар, 4 чалавекі. Я купіў 10 календароў для сябе і суседзяў. «Прадседацель (свяшчэннік) забараніў, а пасля прыходзіў прыстаў і казаў, што не можна прадаваць», — адказваюць.

**«НН». №16. 1914.**

**Свіней у школы.** Пераплюнуў усіх Мядзельскі раён. Мясцовому аддзелу адукацыі давялі заданне: цягам года настаўнікі раёна мусяць выгадаваць і здаць дзяржаве 60 свіней. Эканамічны абсурд! Педагогаў прымушаюць працаваць бясплатна, а фермеру немагчыма прадаць свінчо.

**«НН». №15. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 15.04.2014.
Замова №1439.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614